



Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭХНАЛАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# БЕЛАРУСКА-РУСКІ ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ПА БАТАНІЦЫ І КВЕТКАВОДСТВЕ

Для студэнтаў спецыяльнасцей Т.16.01, Т.16.02

Мінск 1996

УДК 653

Разгледжаны і рэкамендаваны для выдання рэдакцыйна-выдавецкай радай універсітэта

Складальнікі: дац. Т.М.Бурганская,
дац. Л.С.Пашкевіч,
ст.выкл. А.І.Скорабагатая

Навуковы рэдактар праф.В.Р.Анціпаў

Рэцэнзенты: заг. лабараторыі прадукцыйнасці і ўстойлівасці лясных экасістэм ІЭБ АНБ, к.б.н. А.В.Пугачэўскі;
дацэнт кафедры лесаводства БДТУ, к.с.-г.навук Г.Я.Клімчык

Прыведзена каля 700 найбольш ужывальных тэрмінаў па батаніцы і кветкаводстве і дадзена іх тлумачэнне на беларускай мове, што будзе садзейнічаць лепшаму вывучэнню гэтых дысцыплін.

Па тэматычным плане выданняў вучэбна-метадычнай літаратуры універсітэта на 1996 год. Паз. 28.

Для студ. спец. Т.16.01 "Лясная гаспадарка", Т. 16.02 "Садова-паркавае будаўніцтва"







## УВОДЗІНЫ

Тэрміналагічны тлумачальны беларуска-рускі слоўнік па батаніцы і кветкаводстве прызначаецца для студэнтаў спецыяльнасцей "Лясная гаспадарка" і "Садова-паркавае будаўніцтва" лесатэхнічных ВНУ. Ён ахоплівае асноўную частку лексікі па анатоміі, марфалогіі і сістэматыцы раслін, а таксама тэхналогіі вырошчвання дэкаратыўных культур.

Слоўнік мае спецыяльную будову: спачатку даецца тэрмін на беларускай мове, потым яго пераклад на рускую. У дужках пры некаторых тэрмінах для глыбейшага іх пазнання даецца лацінская, грэчаская ці іншая назва і, нарэшце, тлумачэнне значэння слова на беларускай мове. Спадзяемся, што слоўнік дапаможа студэнтам пры пераходзе навучання на беларускую мову.

**ААГАМІЯ** - *оогамия* (ад грэч. оон - яйка, гамія - уступаць у шлюб) - форма палавога працэсу, калі буйная (вялікая) і нерухомая жаночая палавая клетка (яйцаклетка) зліваецца з невялікай і часцей за ўсё рухомай мужчынскай палавой клеткай (сперматазоід).

**ААМІЦЭТЫ** - *оомицеты* - клас найніжэйшых грыбоў, якім уласцівы палавы працэс - аагамія.

**АБАРОНА РАСЛІН АД ШКОДНІКАЎ І ХВАРОБ** - *защита растений от вредителей и болезней* - вытворчая дзейнасць у сельскай і ляснной гаспадарках па прадухіленні і ліквідацыі шкоды, якую прыносяць раслінам шкодныя арганізмы.

**АБАРОНЕНЫ ГРУНТ, ЗАКРЫТЫ ГРУНТ** - *защищенный грунт, закрытый грунт* - спецыяльныя памяшканні або зямельныя ўчасткі са штучным спрыяльным для расліны мікракліматам; выкарыстоўваюць для вырошчвання розных сельскагаспадарчых раслін у пазасезонны час.

**АБЛАКЦЫРОЎКА** - *аблактировка* - прышчэпка збліжэннем, калі адбываецца зрашчэнне дзвюх раслін, якія растуць побач, без аддзялення флянсаў ад ствала.

**АБСАЛЮТНАЯ ВАГА НАСЕННЯ** - *абсолютный вес семян* - вага 1000 абсалютна сухога насення, або вага 1000 насення ў пераліку на сухое рэчыва.

**АГРАТЭХНІКА** - *агротехника* (ад грэч. агрос - поле, номос - закон+тэхніка) , тэхніка раслінаводства, якая ўключае прыём апрацоўкі глебы, унясенне ўгнаенняў, перадпасяўную апрацоўку насення, сяўбу, догляд раслін і збор ураджаю.

**АДВЕНТЫЎНЫЯ РАСЛІНЫ** - *адвентивные растения* - (ад лац. adventicius - прыйшлі) - заносныя або інтрадукаваныя расліны, якія пра-

ніклі на тэрыторыю мясцовай флоры ў выніку ненаўмыснага заносу іх чалавекам або пры дапамозе розных прыродных фактараў.

**АДКРЫТЫ ГРУНТ** - *открытый грунт* - зямельныя ўчасткі без укрыццяў, занятыя агароднымі або дэкаратыўнымі раслінамі.

**АДНАГАДОВЫЯ КВЕТКАВА-ДЭКАРАТЫЎНЫЯ РАСЛІНЫ, ЛЕТНІКІ, АДНАЛЕТНІКІ** - *однолетние цветочно-декоративные растения, летники, однолетники* - група відаў, якія праходзяць свой жыццёвы цыкл і дасягаюць найбольшай дэкаратыўнасці на працягу аднаго вегетатыўнага перыяду.

**АДНАГАДОВЫЯ РАСЛІНЫ, АДНАЛЕТНІКІ** - *однолетние растения, однолетники* - травяністыя расліны з жыццёвым цыклам (ад насення да насення) на працягу аднаго вегетатыўнага перыяду.

**АДНАДОЛЬНЫЯ, АДНАСЕМЯДОЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ** - *однодольные, односемядольные растения* - клас пакрытанасенных раслін, якія характарызуюцца наяўнасцю адной семядолі ў зародку насення (напрыклад злакі, асокі).

**АДНАДОМНЫЯ РАСЛІНЫ** - *однодомные растения* - расліны, у якіх жаночыя і мужчынскія органы размнажэння размешчаны на адной і той жа расліне.

**АДНАКЛЕТАЧНЫЯ РАСЛІНЫ** - *одноклеточные растения* - расліны, цела якіх складаецца з адной клеткі (бактэрыі, частка сіне-зялёных водарасцей).

**АДНАСХІЛЬНАЯ АРАНЖАРЭЯ** - *односкатная оранжерея* - аранжарэя з адной плоскасцю даху, які павернуты на поўдзень, з вуглом нахілу 30-45 градусаў.

**АДРАЎНЕЛЫЯ ЧАРАНКІ** - *одревесневшие черенки* - частка аднагадовага парастка ( радзей двух і болей гадоў ) даўжынёй 15-30 см, нарыхтаванага ў час поўнага спакою расліны (позняя восень або ранняя вясна).

**АЗЕЛЯНЕННЕ** - *озеленение* - сістэма мерапрыемстваў па стварэнні і выкарыстанні зялёных насаджэнняў з мэтай паляпшэння ўмоў жыцця насельніцтва, частка агульнай праблемы пераўтварэння ландшафту ў цэлым.

**АЗІМЫЯ АДНАЛЕТНІКІ** - *озимые однолетники* - расліны, жыццёвы цыкл якіх пачынаецца ў канцы аднаго вегетатыўнага перыяду і заканчваецца пасля зімоўкі ўсярэдзіне другога (васілёк, стрэлкі звычайныя і інш.). Адна з жыццёвых форм раслін.

**АЗОТАБАКТЭРЫН** - *азотобактерин* - бактэрыяльнае ўгнаенне, якое ўтрымлівае бактэрыі азотабактэр, якія здольны засвойваць азот паветра і пераводзіць яго ў даступны для раслін стан.



**АЗОТФІКСАВАЛЬНЫЯ БАКТЭРЫІ** - *азотофиксирующие* бактерии мікраарганізмы, здольныя засвойваць атмасферны малекулярны азот.

**АІДЫІ (АРТРАСПОРЫ)** - *оидии (артроспоры)* - авальныя клеткі, якія ўтвараюцца ў выніку распадзення міцэлію некаторых грыбоў і служаць для вегетатыўнага размнажэння.

**АКЛІМАТЫЗАЦЫЯ** - *акклиматизация* - прыстасаванне раслін і жывёл да новых умоў існавання.

**АКТЫНАМОРФНАЯ КВЕТКА** - *актиноморфный цветок* ( ад грэч. актыс - прамень, морфе - форма ) - правільная кветка, гэта значыць ( г.зн. ) кветка, праз якую можна правесці не менш за дзве плоскасці сіметрыі, якія падзеляць яе на роўныя палавіны.

**АКУЛІРОЎКА** - *окулировка* - адзін са спосабаў вегетатыўнага размнажэння раслін, пры якім на дзічку ( прышчэпу ) прышчэпліваюць пупышку ( вочка ) культурнага гатунку.

**АКУЧВАННЕ** - *окучивание* - агратэхнічны прыём догляду за раслінамі, які заключаецца ў прывальванні вільготнай дробнакамякаватай глебы да ніжніх частак раслін з адначасовым яе рыхленнем.

**АЛАГАМІЯ** - *аллогамия* ( ад грэч. алас - другі, гамія - уступаць у шлюб ) - чужаапыленне, апыленне песціка пылком другой кветкі:

1) гейтанагамія - суседняе апыленне, калі другая кветка знаходзіцца на тым жа экзэмпляры;

2) ксенагамія - перакрыжаванае апыленне, калі кветкі знаходзяцца на розных экзэмплярах.

**АЛЕЙНЫЯ РАСЛІНЫ** - *масличные растения* - расліны, якія назапашваюць у розных органах ( асабліва ў насенні ) запасное рэчыва - алей ( напрыклад сланечнік ).

**АЛЕЙРОНАВЫЯ ЗЯРНЯТЫ** - *алейроновые зерна* ( ад грэч. алейрон - мука ) - цвёрдыя адклады запасных бялкоў у клетках насення злакаў і шмат якіх іншых раслін.

**АЛЕЛАПАТЫЯ** - *аллелопатия* - уплыў раслін адна на другую ў выніку выдзялення імі розных рэчываў.

**АЛІГАТРОФНЫЯ РАСЛІНЫ** - *олиготрофные растения* - расліны, здольныя расці на глебах, бедных мінеральнымі рэчывамі.

**АМІТОЗ** - *амитоз* - прамое дзяленне ядра, без утварэння храмасом.

**АМПЕЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ** - *ампельные растения* ( ад ням. ампель - вісячая ваза ) - дэкаратыўныя расліны з доўгімі звісаючымі флянсамі, якія вырошчваюць у падвесных вазах ( ампелях ) або ў вісячых гаршках.

**АМПЛІ** - *ампли* - падвесныя вазы, гаршкі, карзінкі або скрынкі.

**АМФІВАЗАЛЬНЫЯ ПУЧКІ** - *амфивазальные пучки* - канцэнтрычныя пучкі, у якіх драўніна акружае луб.

**АМФІКАРПІЯ** - *амфикарпия* - утварэнне ў адной і той жа расліны пладоў двух тыпаў: надземнага і падземнага ( напрыклад у кісліцы ).

**АМФІКРЫБРАЛЬНЫЯ ПУЧКІ** - *амфикрибральные пучки* - канцэнтрычныя пучкі, у якіх луб акружае драўніну.

**АНАЛАГІЧНЫЯ ЭРГАНЫ** - *аналогичные органы* - органы, якія выконваюць аднолькавую функцыю і падобныя па вонкавым выглядзе, але розныя па паходжанні (напрыклад калючка барбарысу - відазменены ліст, а калючка глогу - сцябло).

**АНАТОМІЯ РАСЛІН** - *анатомия растений* - раздзел батанікі, у якім вывучаецца ўнутраная будова раслін.

**АНАФАЗА** - *анафаза* - трэцяя фаза карыякінеза, у час якой палавінкі храмасом разыходзяцца да палюсоў клеткі .

**АНАЭРОБНЫЯ РАСЛІНЫ** - *анаэробные растения* - расліны, здольныя існаваць і развівацца пры адсутнасці свабоднага кіслароду.

**АНГАРНЫЯ ЦЯПЛІЦЫ** - *ангарные теплицы* - вялікія цяпліцы, даўжыня якіх дасягае 150 м, шырыня 30 м і вышыня 9 м.

**АНДРАЦЭЙ** - *андроцей* - сукупнасць тычынак кветкі.

**АНЕМАХАРЫЯ** - *анемохория* - распаўсюджванне пладоў і насення ветрам.

**А ІІЗАТРАПІЯ** - *анизотропия* - здольнасць розных органаў адной і той жа расліны прымаць розныя становішчы пры аднолькавых уздзеяннях фактараў вонкавага асяроддзя.

**АНІЗАФІЛІЯ** - *анизофиллия* - неаднолькавая велічыня лістоў.

**АНТАГЕНЕЗ** - *онтогенез* - працэс індывідуальнага развіцця жывога арганізма ад нараджэння да прыроднай смерці.

**АНТЭРЫДЫЙ** - *антеридий* - мужчынскі палавы орган імхоў, дзеразы, папарацей, хвашчоў, некаторых водарасцей і грыбоў.

**АНТАЦЫЯНЫ** - *антоцианы* - група пігментаў, якая змяшчаецца ( утрымліваецца ) у клетачным соку шматлікіх раслін і выклікае афарбоўку пялёсткаў, пладоў і гэтак далей ( г.д. ) у розныя адценні сіняга, чырвонага і фіялетавага колераў.

**АНТРАПАХАРЫЯ** - *антропохория* - распаўсюджванне пладоў і насення пры дапамозе чалавека.

**АНТЫПОДЫ** - *антиподы* - клеткі ў зародкавым мяшку, ляжачыя ў канцы, процілеглым яйцаваму апарату ( г.зн. яйцаклетцы і сінергідам ).

**АПАГАМІЯ** - *апогамия* - развіццё зародка насення не з яйцаклеткі, а з сінергід або антыпод (трыпутнік і інш.).



**АПАМІКСІС** - *апомиксис* - бясполанасеннае размнажэнне, г.зн. развіццё новага арганізма без зліцця палавых клетак:

1) партэнагенез - з неаплодненай яйцаклеткі;
2) апагамія - з сінергід або антыпод;
3) апаспарыя - з клеткі нуцэлуса.

**АПАСПАРЫЯ** - *апоспория* - развіццё зародка з клетак нуцэлуса. Разнавіднасць апаміксісу (бясполанасеннага размнажэння).

**АПАТЭЦЫЙ** - *апотеций* - адкрытае, звычайна сподачкападобнае, пладовае цела, якое ўтвараецца ў грыбоў.

**АПІКАЛЬНЫ** - *апикальный* - верхавінкавы, марфалагічна верхні.

**АПЛАДАТВАРЭННЕ** - *оплодотворение* - працэс зліцця мужчынскай і жаночай палавых клетак (гамет) раслін, у выніку якога ўтвараецца зігота - клетка, здольная даць пачатак новаму арганізму.

**АПЛАНАСПОРЫ** - *апланоспоры* - нерухомыя (без жгуцікаў) споры бясполага размнажэння, пры дапамозе якіх размнажаюцца некаторыя водарасці.

**АПРАЦОЎКА ГЛЕБЫ** - *обработка почвы* - прыёмы механічнага ўздзеяння на глебу, якія садзейнічаюць павышэнню ўрадлівасці і ўтварэнню лепшых умоў для росту і развіцця раслін.

**АПУДРАННЕ НАСЕННЯ** - *опудривание семян* - апыльванне, або сухое пратручванне насення перад сяўбой пылападобнымі пестыцыдамі для аховы раслін ад шкоднікаў і хвароб.

**АПЫЛЕННЕ** - *опыление* - перанос пылку з пыльнікаў на рыльца песціка ў пакрытанасенных або на семязавязь у голанасенных раслін.

**АРАБЕСКІ** - *арабески* - невялікія фігурныя клумбы, якія нагадваюць па знешнім выглядзе разнастайныя фігуры ( завіткі, лісты, кветкі, гірлянды і інш. ), размяшчаюцца галоўным чынам па бакавых частках партэраў і кветнікаў, у вуглах газонаў.

**АРАНЖАРЭЯ** - *оранжерея* - зашклёнае памяшканне для развядзення або зімоўкі паўднёвых вечназялёных, кветкавых або іншых раслін.

**АРАНЖЫРОЎКА КВЕТАК** - *аранжировка цветов* - выкарыстанне зрэзаных кветак і гаршковых раслін для стварэння мастацкіх вырабаў: букетаў, вянкоў, гірляндаў, кошыкаў з кветкамі і інш.

**АРГАНІЧНЫЯ ЎГНАЕННІ** - *органические удобрения* - угнаенні, пажыўныя рэчывы якіх часткова або цалкам знаходзяцца ў форме арганічных злучэнняў раслііннага або жывёльнага паходжання.

**АРГАНЭЛЫ, АРГАНАІДЫ** - *органеллы, органоиды* - часткі клеткі, якія выконваюць вызначаныя функцыі ( пратаплазма, ядро, пластыды і г.д. ).

**АРНІТАФІЛІЯ** - *орнитофилия* - апыленне кветак пры дапамозе птушак.

**АРНІТАХАРЫЯ** - *орнитохория* - распаўсюджванне пладоў і насення птушкамі.

**АРТАТРОПНЫЯ ОРГАНЫ** - *ортотропные органы* - органы, якія размешчаны вертыкальна.

**АРХЕГАНІЯТЫ** - *архегониаты* - вялікая група раслін, у якіх жаночым палавым органам з'яўляецца архегоній (напрыклад мохападобныя, папарацепадобныя).

**АРХЕГОНІЙ** - *архегоний* - жаночы палавы орган вышэйшых споравых раслін, звычайна бутэлечнай формы, у пашыранай частцы якога знаходзіцца яйцаклетка.

**АРЭАЛ** - *ареал* - вобласць распаўсюджвання якога-небудзь віду (роду, сям'і і іншых таксанамічных падраздзяленняў ) раслін.

**АРЭХ** - *орех* - просты, сухі плод. Мае драўнясты каляплоднік і травяністую плюску са зрошчаных прыкветнікаў ( напрыклад арэшнік ).

**АСК, СУМКА** - *аск, сумка* - спараносны орган, уласцівы для сумчатых грыбоў, усярэдзіне якога развіваюцца восем аскаспор.

**АСКАМІЦЭТЫ, СУМЧАТЫЯ ГРЫБЫ** - *аскомицеты, сумчатые грибы* ( ад грэч. ascos - мяшок, сумка; mykes - грыб ) - клас вышэйшых грыбоў.

**АСНОЎНАЕ ЎГНАЕННЕ** - *основное удобрение* - угнаенне, унесенае ў глебу да сяўбы с/г культуры.

**АТОЖЫЛКІ** - *отводки* - парасткі, якія ўкараняюцца без аддзялення іх ад мацярынскай расліны.

**АЎКСІНЫ** - *ауксины* - рэчывы, стымулюючыя рост клетак.

**АЎТАГАМІЯ** - *автогамия* (ад грэч. аута - сам, гамія - уступаць у шлюб):

1) самаапыленне, пападанне пылку на рыльца песціка сваёй кветкі;

2) самаапладненне, зліццё двух ядраў, якія ўтварыліся ўнутры адной клеткі; назіраецца ў некаторых аднаклетачных водарасцей.

**АЎТАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ** - *автотрофные организмы* - арганізмы, якія сінтэзуюць неабходныя для жыццядзейнасці складаныя арганічныя злучэнні з вуглекіслаты, вады, неарганічных злучэнняў азоту, мінеральных рэчываў глебы, пры гэтым выкарыстоўваюць энергію фотасінтэзу або хемасінтэзу.

**АФІЛІЯ** - *афилия* - бязлістасць, поўная рэдукцыя лістоў; назіраецца ў саксаулу.



**АХОЎНЫЯ РАСЛІНЫ** - *охраняемые растения* - віды раслін, адносна якіх мясцовымі, дзяржаўнымі ці міжнароднымі актамі і пагадненнямі ўведзены спецыяльныя меры аховы.

**АЦЫДАФІЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ, КАЛЬЦЭФОБЫ** - *ацидофильные растения* - расліны, для развіцця якіх неабходна значная кіслотнасць асяроддзя ( напрыклад сфагнум, верас ).

**АЦЫДАФОБНЫЯ РАСЛІНЫ, КАЛЬЦЭФІЛЫ** - *ацидофобные растения* -расліны, якія не здольныя існаваць ва ўмовах павышанай кіслотнасці асяроддзя і развіваюцца толькі пры нейтральнай і шчолачнай яго рэакцыі ( напрыклад буракі, фасоля ).

**АЦЫКЛІЧНАЯ КВЕТКА** - *ациклический цветок* - спіральная кветка, г.зн. кветка, усе часткі якой размяшчаюцца па спіралі.

**АЧЫСТКА НАСЕННЯ** - *очистка семян* - вызваленне насення ад пабочных дамешкаў: насення іншых культурных раслін, пустазелля і змярцвелага смецця.

**АЭРАФІТЫ, "ПАВЕТРАНЫЯ" РАСЛІНЫ** - *аэрофиты, "воздушные" растения* - расліны, усе органы якіх знаходзяцца ў паветраным асяроддзі.

**АЭРОБНЫЯ АРГАНІЗМЫ, АЭРОБЫ** - *аэробные организмы*, аэробы -арганізмы, здольныя жыць толькі ў прысутнасці малекулярнага кіслароду.

**АЭРЭНХІМА** - *аэренхима* - паветраносная тканка; рыхлая тканка водных і балотных раслін, якая ўтрымлівае ў міжклетніках запасы паветра.

**БАЗІДЫЯ** - *базидия* - орган спаранашэння базідыяльных грыбоў у выглядзе цыліндрычнай клеткі ( радзей - чатырох клетак ); на вяршыні клеткі звычайна развіваюцца чатыры базідыяспоры.

**БАЗІДЫЯМІЦЭТЫ, БАЗІДЫЯЛЬНЫЯ ГРЫБЫ** - *базидиомицеты*, базидиальные грибы - клас вышэйшых грыбоў з асобымі органамі размнажэння - базідыямі.

**БАКАВЫ КОРАНЬ** - *боковой корень* - корань, які бярэ пачатак ад галоўчага кораня расліны. Бывае 1, 2, 3 і г.д. парадкаў.

**БАКТЭРЫІ** - *бактерии* ( ад грэч. бактэрыён - палачка ) - мікраскапічныя, пераважна аднаклетачныя арганізмы без тыповага ядра.

**БАКТЭРЫЯЛЬНЫЯ ЎГНАЕННІ** - *бактериальные удобрения* - прэпараты, якія маюць карысныя глебавыя мікраарганізмы.

**БАРАНАВАННЕ** - *боронование* - паверхневая апрацоўка глебы, пры якой знішчаецца глебавая скарынка, праводзіцца драбленне буйнакамякаватай і рыхленне зацвярдзелай глебы, выраўноўванне ўзаранай зямлі, забараноўванне (закрыванне) угнаенняў і інш.

**БАРДЗЮРЫ** - *бордюры* - вузкая паласа кветкавых раслін шырынёй 10-30 см, акружае клумбу, рабатку і знаходзіцца на беражку газона ўздоўж дарожак.

**БАТАНІКА** - *ботаника* ( ад грэч ботане - трава, расліна ) - комплекс навук пра расліны, якія вывучаюць іх паходжанне, эвалюцыю, вонкавую і ўнутраную будову і г.д.

**БАТАНІЧНЫЯ САДЫ** - *ботанические сады* - навукова-даследчыя, вучэбна-дапаможныя і культурна-асветніцкія ўстановы, якія вывучаюць расліны мясцовай і іншаземнай флоры.

**БАТРЫЧНЫЯ СУКВЕЦЦІ, НЕАКРЭСЛЕНЫЯ** - *ботрические соцветия, неопределенные* - суквецці, якія маюць монападыяльнае галінаванне; верхавінкавая кветка ў іх распускаецца апошняй.

**БЕНТАС** - *бентос* ( ад грэч. benthos - глыбіня ) - сукупнасць арганізмаў, якія жывуць на дне вадаёма.

**БІКАЛАТЭРАЛЬНЫ ПУЧОК** - *биколлатеральный пучок* - праводзячы (праводны) пучок, у якім луб знаходзіцца па абодва бакі ад драўніны.

**БІЛАТЭРАЛЬНАЯ СІМЕТРЫЯ** - *билатеральная симметрия* - двухбаковая сіметрыя, выяўляецца ў тым, што цела ( орган ) складаецца з дзвюх аднолькавых палавін.

**БІЯПАЛІВА** - *биотопливо* - розныя арганічныя матэрыялы, якія выдзяляюць ў працэсе гніення цяпло; яно выкарыстоўваецца для абагравання вясенніх цяпліц, парнікоў і грунту.

**БІЯЦЭНОЗ** - *биоценоз* - сукупнасць арганізмаў, якія насяляюць вызначаную больш-менш аднародную тэрыторыю ( біятоп ).

**БЛОЧНЫЯ, АБО МНАГАСКАТНЫЯ ЦЯПЛІЦЫ** - *блочные, или многоскатные теплицы* - злучэнне двухскатных цяпліц, унутраныя бакавыя сцены якіх заменены слупамі (блокамі).

**БОБ** - *боб* - плод раслін парадку бабовых, які ўтвараецца з верхняй завязі адным пладалісцікам і раскрываецца па шве зрастання і сярэдняй жылцы.

**БУКЕТ** - *букет* - мастацкая звязка зрэзаных кветак пры свабодным, натуральным размяшчэнні, дзе бачна прыгажосць кожнай кветкі.

**БЯСПОЛАЕ РАЗМНАЖЭННЕ** - *бесполое размножение* - размнажэнне без апладнення, пры якім утвараюцца новыя асобіны, па сваіх спадчынных прыкметах падобныя да бацькоўскай асобіны. Падзяляецца на вегетатыўнае і ўласна бясполае (пры дапамозе заспор і спор).

**ВАГА 1000 НАСЕННЯ** - *вес 1000 семян* - паказчык буйнасці і напоўненасці кандыцыйнага па вільготнасці насення, выражаны ў грамах.



**ВАЙЯ** - *вайя* - лісце папарацей; у пупышкаскладанчі слімакападобна закручаны, растуць верхавінай.

**ВАКУОЛЬ** - *вакуоль* - унутрыклетачная прастора, якая запоўнена клетачным сокам.

**ВАПНАВАННЕ ГЛЕБЫ** - *известкование почв* - спосаб хімічнай меліярацыі кіслых глеб, якія валодаюць шкоднымі для многіх сельскагаспадарчых культур уласцівасцямі.

**ВАПНАВЫЯ ЎДАБРЭННІ** - *известковые удобрения* - розныя прыродныя вапнавыя пароды і прадукты іх перапрацоўкі, а таксама адкіды прамысловасці, якія ўтрымліваюць вапну; прымяняюць для вапнавання глебы.

**ВЕГЕТАТЫЎНАЕ РАЗМНАЖЭННЕ** - *вегетативное размножение* -размнажэнне, пры якім новы арганізм развіваецца з вегетатыўных органаў мацярынскага арганізма ці іх частак.

**ВЕГЕТАТЫЎНЫЯ ОРГАНЫ** - *вегетативные органы* - органы, якія выконваюць функцыі, звязаныя з індывідуальным жыццём расліны ( корань, сцябло, ліст ).

**ВЕГЕТАЦЫЙНЫ ПЕРЫЯД** - *вегетационный период* - перыяд актыўнай жыццядзейнасці раслін.

**ВЕРАСОВАЯ ЗЯМЛЯ** - *вересковая земля* - садовая зямля, якая ўтвараецца з перагніўшых каранёў, сцёблаў і лістоў верасу.

**ВЕРТЫКАЛЬНАЕ АЗЕЛЯНЕННЕ** - *вертикальное озеленение* - спосаб выкарыстання павойных раслін для ўпрыгожвання фасадаў і сцен будынкаў, балконаў, вокнаў і г.д.

**ВЕРШАЛІНА** - *верхушка дерева.*

**ВЕЧНАЗЯЛЁНЫЯ РАСЛІНЫ** - *вечнозеленые растения* - расліны, якія маюць зялёнае лісце на працягу ўсяго года.

**ВІД** - *вид* - асноўная структурная і класіфікацыйная ( таксанамічная ) адзінка ў сістэме жывых арганізмаў; генетычна адзіная сукупнасць папуляцый асобін, якія здольныя да скрыжавання з утварэннем пладавітага патомства, маюць агульныя марфафізіялагічныя прыкметы, насяляюць пэўны арэал і ў прыродных умовах практычна не скрыжоўваюцца з іншымі відамі.

**ВІЛЬГАЦЕЗАБЯСПЕЧАНАСЦЬ ПАСЕВАЎ** - *влагообеспеченность посевов* - ступень задаволенасці патрэбнасці раслін у вільгаці.

**ВІЛЬГОТНАСЦЬ НАСЕННЯ** - *влажность семян* - утрыманне вільгаці ў насенні, якое вызначана ў працэнтах да вагі зыходнай наважкі; вызначаецца метадам высушвання ў сушыльнай шафе або вільгацямерам.

**ВОДАРАСЦІ** - *водоросли* - зборная група ніжэйшых слаявінных або таломных споравых хларафіланосных, пераважна водных раслін.

**ВОДНЫ РЭЖЫМ РАСЛІН** - *водный режим растений* - водаабмен у раслін, які забяспечвае нармальны ход важнейшых фізіялагічных працэсаў ( абмен рэчываў, рост, развіццё і размнажэнне).

**ВОДНЫЯ РАСЛІНЫ** - *водные растения* - прыстасаваныя жыць ва ўмовах лішкавага ўвільгатнення. Растуць у вадзе ( гідрафіты ), на балотах і ў перавільготненых забалочаных месцах ( гіграфіты ). Падзяляюцца на:

1) гелафіты - прыбярэжныя і надводныя расліны;
2) неістафіты - расліны з плывучым лісцем;
3) гідрафіты - расліны, апушчаныя ў ваду.

**ВУЗЕЛ ПАРАСТКА** - *узел побега* - тое месца сцябла, дзе прымацоўваецца ліст, пупышка.

**ВУСЦЕЙКА** - *устьице* - навылётная адтуліна ў эпідэрмісе, абмежаваная дзвюма клеткамі паўмесячнай формы з хларапластамі; забяспечвае газаабмен і транспірацыю.

**ВЫГАНАЧНАЯ ЦЯПЛІЦА** - *выгоночная теплица* - цяпліца, якая выкарыстоўваецца для выганкі кветкавых і іншых культур.

**ВЫГАНКА РАСЛІН** - *выгонка растений* - агратэхнічны прыём, які выкарыстоўваюць для атрымання кветак, агародніны ў несезонны для іх час.

**ВЫДЗЯЛЯЛЬНЫЯ ТКАНКІ** - *выделительные ткани* - разнастайныя структуры, якія адказваюць за назапашванне і выдзяленне з раслін эфірнага алею, нектару, вады і інш.

**ВЫМАКАННЕ РАСЛІН ( ПАСЕВАЎ )** - *вымокание растений* (посевов) - гібель азімых культур з прычыны парушэння дыхання, якое наступіла пры застоі вады на полі.

**ВЫМЯРЗАННЕ РАСЛІН ( ПАСЕВАЎ )** - *вымерзание растений ( посевов )* - гібель раслін або іх частак у выніку ўтварэння лёду ў тканках пад уплывам маразоў.

**ВЫПІРАННЕ РАСЛІН ( ПАСЕВАЎ )** - *выпирание растений (посевов)* - абрыў каранёў у азімых раслін і выцісканне іх з глебы на паверхню з агаленнем вузлоў кушчэння, каранёвых шыек і каранёў.

**ВЫПРАВАННЕ РАСЛІН ( ПАСЕВАЎ )** - *выпревание растений ( посевов )* - частковая або поўная гібель азімых культур ад спустошэння ў выніку працяглага знаходжання пад глыбокім снегавым покрывам.

**ВЫШЭЙШЫЯ РАСЛІНЫ, ЛІСТАСЦЯБЛОВЫЯ, САСУДЗІСТЫЯ** - *высшие растения, листостебельные, сосудистые* - група найбольш высокаарганізаваных раслін (В.Р.), для цела якіх характэрны падзел на спецыялізаваныя органы - корань, сцябло і лісце. Усім В.Р. уласціва правільнае чаргаванне пакаленняў бясполага ( спарафіту ) і палавога ( гаметафіту ) у цыкле развіцця.



**ВЯНОЧАК** - *венчик* - частка кветкі, утвораная вольнымі ( свабоднымі ) або зрошчанымі белымі альбо афарбаванымі пялёсткамі.

**ГАБІТУС** - *габитус* - знешні выгляд расліны, абумоўлены вызначаным характарам яго росту.

**ГАДАВАЛЬНІК** - *питомник* - месца для вырошчвання раслін ( напрыклад Г. пладовых і Г. дэкаратыўных дрэў для азелянення населеных месцаў ).

**ГАЗАЦЫЯ** - *газация* - абеззаражанне (ад шкодных насякомых, грызуноў і ўзбуджальнікаў грыбных хвароб) розных памяшканняў, раслін, насення, глебы, пасадачнага матэрыялу і г.д. газападобнымі або парападобнымі хімічнымі рэчывамі.

**ГАЗОН** - *газон* - участак зямлі з аднародным ці штучным травяным покрывам.

**ГАЛАФІЛЫ, ГАЛАФІТЫ** - *галофилы, галофиты* - расліны, якія аддаюць перавагу мясцінам з павышанай колькасцю солей.

**ГАЛАФОБЫ** - *галофобы* - расліны, якія не вытрымліваюць павялічанай салёнасці асяроддзя.

**ГАЛІНА** - *ветка.*

**ГАЛІНАВАННЕ РАСЛІН** - *ветвление растений* - расчляненне цела раслін.

**ГАЛОЎКА** - *головка* - простае нявызначанае суквецце са скарочанай і булавападобнай пашыранай воссю; кветкі на вельмі кароткіх кветаножках (канюшына).

**ГАЛОЎНЫ КОРАНЬ** - *главный корень* - корань, які бярэ пачатак ад зародкавага карэньчыка насення. Звычайна самы буйны корань расліны.

**ГАМАЛАГІЧНЫЯ ОРГАНЫ** - *гомологичные органы* - органы, якія маюць аднолькавае паходжанне, але розныя па форме і выконваемай функцыі (напрыклад ліст, калючка барбарысу, пупышкавая лускавіна, пялёстак).

**ГАМЕАМЕРНЫЯ ЛІШАЙНІКІ** - *гомеомерные лишайники* - лішайнікі, у цела якіх калоніі і асобныя клеткі водарасцей рассеяны сярод гіф грыба.

**ГАМЕТАНГІЙ** - *гаметангий* - орган палавога размнажэння, у якім утвараюцца палавыя клеткі (гаметы). Мужчынскія гаметангіі - актэрыдыі, у іх утвараюцца сперматазоіды, жаночыя - архегоніі з яйцаклеткамі.

**ГАМЕТАФІТ** - *гаметафит* - палавая фаза (палавое пакаленне) жыццёвага цыкла расліны ад споры да ўтварэння зіготы(дыплоідная клетка, якая ўзнікае ў выніку зліцця жаночай і мужчынскай палавых клетак); клеткі гаметафіту маюць гаплоідны (палавінны) набор храмасом.

**ГАМЕТЫ** - *гаметы* - палавыя клеткі, якія зліваюцца пры апладненні.

**ГАРАЧАЎСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІН** - *жароустойчивость растений* -здольнасць раслін выносіць перагрэў, г.з. павышаную тэмпературу сваіх тканак.

**ГАРБУЗІНА** - *тыквина* - просты многанасенны плод з цвёрдым экзакарпіем, мясістым мезакарпіем і сакавітым эндакарпіем. Развіваецца з ніжняй завязі, якая ўтворана трыма пладалісцікамі (дыня, кавун, гарбуз, агурок).

**ГАРМОНЫ РАСЛІН, ФІТАГАРМОНЫ** - *гормоны растений, фитогормоны* - рэчывы, якія выпрацоўваюцца ў раслінах у вельмі малой колькасці, лёгка рухаюцца па расліне і аказваюць значнае ўздзеянне на яе рост і органаўтварэнне.

**ГАСПАДАРЧАЯ ПРЫГОДНАСЦЬ НАСЕННЯ** - *хозяйственная годность семян* - адзін з паказчыкаў якасці насення, які вызначаецца шляхам дзялення на 100 здабытку працэнта чысціні і працэнта ўсходжасці насення.

**ГАУСТОРЫІ** - *гаустории* - карані-прысоскі, пры дапамозе якіх расліны-паразіты высмоктваюць пажыўныя рэчывы з расліны-гаспадара.

**ГЕАБАТАНІКА** - *геоботаника* - раздзел батанікі, які вывучае заканамернасці размеркавання раслін на зямной паверхні, узаемаадносіны раслін з асяроддзем і заканамернасці прыродных груповак раслін.

**ГЕАКАРПІЯ** - *геокарпия* - спосаб распаўсюджвання пладоў, які заключаецца ў тым, што завязі пасля апладнення зарываюцца ў глебу, дзе і адбываецца развіццё плода (напрыклад арахіс).

**ГЕАТРАПІЗМ** - *геотропизм* - выгінанне органаў, якія растуць, вызываецца дзеяннем сілы цяжару.

**ГЕАФІТЫ** - *геофиты* - шматгадовыя травяністыя расліны, у якіх пупышкі аднаўлення скрытыя ў глебе (напрыклад лілейныя).

Адна з жыццёвых форм раслін.

**ГЕЙТЭНАГАМІЯ** - *гейтеногамия* - суседняе апыленне, г. зн. апыленне ў межах адной расліны шляхам пераносу пылку з адной кветкі на рыльца песціка другой кветкі.

**ГЕЛІЯФІТЫ** - *гелиофиты* - святлолюбівыя расліны, якія для развіцця патрабуюць вялікай колькасці сонечнага святла.



**ГЕМІКРЫПТАФІТЫ** - *гемикриптофиты* - адна з жыццёвых форм раслін, у якіх пупышкі ўзнаўлення ў неспрыяльны для вегетацыі перыяд знаходзяцца на паверхні глебы пад ахоўай лускавінак ці адмерлага лісця і снегу (напрыклад дзьмухавец).

**ГЕМІЦЫКЛІЧНАЯ КВЕТКА** - *гемициклический цветок* - кветка, у якой часткі калякветніка размешчаны па крузе, а тычынкі і песцікі - па спіралі.

**ГЕМІЦЭЛЮЛОЗА** - *гемицеллюлоза* - група блізкіх да клятчаткі вугляводаў з формулай $(C_6H_{10}O_6)_n$ або $(C_5H_8O_4)_n$, якія ўваходзяць у склад клетачных абалонак.

**ГЕНЕРАТЫЎНАЯ КЛЕТКА ПЫЛКУ** - *генеративная клетка пыльцы* - меншая з дзвюх клетак пылку, з якой утвараюцца дзве спермы.

**ГЕРБАРЫЙ** - *гербарий* - калекцыя засушаных раслін.

**ГЕРБІЦЫДЫ** - *гербициды* - хімічныя рэчывы для знішчэння раслінасці.

**ГЕТЭРААЎКСІН** - *гетероауксин* - адзін з найбольш распаўсюджаных аўксінаў, які ўтвараецца ў раслінах у вельмі малой колькасці і ўплывае на іх роставыя працэсы.

**ГЕТЭРАГАМІЯ** - *гетерогамия* - форма палавога працэсу, дзе абедзве гаметы рухомыя, але адрозніваюцца па велічыні.

**ГЕТЭРАМЕРНЫЯ ЛІШАЙНІКІ** - *гетеромерные лишайники* - лішайнікі, у якіх водарасцевы кампанент размешчаны непасрэдна пад верхнім коркавым слоем і ўтварае ганідыяльны слой.

**ГЕТЭРАСТЫЛІЯ** - *гетеростилия* - рознаслупкаватасць; наяўнасць у адных экзэмплярах віду кветак з доўгімі слупкамі песцікаў, а ў другіх - з кароткімі (напрыклад першацвет, медуніца).

**ГЕТЭРАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ** - *гетеротрофные организмы* - арганізмы, якія жывяцца гатовымі арганічнымі рэчывамі і не здольныя да першаснага сінтэзу іх з неарганічных злучэнняў (напрыклад грыбы).

**ГЕТЭРАФІЛІЯ** - *гетерофиллия* - разналістасць; наяўнасць на адной расліне лістоў рознай формы.

**ГІБЕРЭЛІНЫ** - *гиббереллины* - арганічныя кіслоты, якія валодаюць высокай фізіялагічнай актыўнасцю і аказваюць стымулюючы ўплыў на рост і накапленне сухой масы шмат якіх раслін.

**ГІГРАФІЛЫ** - *гигрофилы* - наземныя расліны, прыстасаваныя да жыцця ва ўмовах павышанай вільготнасці паветра ці глебы.

**ГІГРАФІТЫ** - *гигрофиты* - глядзі (гл.) гіграфілы.

**ГІГРАФОБЫ** - *гигрофобы* - наземныя расліны, не прыстасаваныя для існавання ва ўмовах павышанай вільготнасці асяроддзя.

**ГІДАТОДЫ** - *гидатоды* - водныя вусцейкі, прыстасаванні, якія служаць для выдзялення кропельнавадкай вады (у працэсе гутацыі).

**ГІДРАПОННЫЯ КУЛЬТУРЫ** - *гидропонные культуры* - кветкавыя, ягадныя і іншыя расліны, што вырошчваюцца без глебы ў водных растворах пажыўных солей або на штучных замянніках глебы (пясок, жвір, мох, торф), якія перыядычна ўвільгатняюць водным растворам пажыўных элементаў.

**ГІДРАФІТЫ** - *гидрофиты* - вышэйшыя водныя расліны, пупышкі аднаўлення якіх знаходзяцца ў вадзе; адна з жыццёвых форм раслін.

**ГІДРАХАРЫЯ** - *гидрохория* - распаўсюджанне пладоў і насення пры дапамозе вады.

**ГІМЕНАФОР** - *гименофор* - паверхня, якая нясе гіменій у пладовых целах грыбоў; у базідыяміцэтаў гіменафор бывае трубчастым (белы грыб) або пласцiністым (сыраежкі).

**ГІМЕНІЙ** - *гимений* - слой, у якім размешчаны спораўтвараючыя клеткі і спараносныя органы у грыбоў і лішайнікаў.

**ГІНЕЦЭЙ** - *гинецей* - сукупнасць пладалісцікаў кветкі, якія ўтвараюць адзін або некалькі песцікаў. Адрозніваюць просты, або апакарпны (створаны адным пладалісцікам), і складаны, або цэнакарпны (створаны некалькімі пладалісцікамі), гінецэй.

**ГІПАКОТЫЛЬ** - *гипокотиль* - падсемядольнае калена, участак сцябла паміж каранёвай шыйкай і месцам прымацавання семядолей.

**ГІФЫ** - *гифы* - мікраскапічныя тонкія ніці, якія звычайна разгалінуоўваюцца і утвараюць цела грыбоў (міцэлій).

**ГЛЕБАПОКРЫЎНЫЯ РАСЛІНЫ** - *почвопокровные растения.*

**ГНОЙ** - *навоз* - мясцовае арганічнае ўгнаенне, якое складаецца з цвёрдых і вадкіх выдзяленняў жывёл звычайна ў сумесі з падсцілачным матэрыялам.

**ГРАНУЛЯВАНЫЯ ЎДАБРЭННІ** - *гранулированные удобрения* - удабрэнні ў выглядзе дробных камячкоў (гранул), якія валодаюць добрай сыпучасцю і не злежваюцца.

**ГРОНКА** - *кисть* - простае монападыяльнае суквецце, у якім кветкі на кветаножках аднолькавай даўжыні размешчаны па абодва бакі восі (напрыклад ландыш).

**ГРУПАВАЯ ПАСАДКА** - *групповая посадка* - група дэкаратыўных раслін, высаджаных на плошчы ад 2 да 20 м у парках, садах, скверах.

**ГРЫБАКОРАНЬ** - *грибокорень* - сімбіёз грыба з коранем вышэйшай расліны; тое, што і мікарыза.



**ГУМУС, ПЕРАГНОЙ** - *гумус*, перегной - згніўшае арганічнае рэчыва глебы, якое надае ёй урадлівасць.

**ДАЖДЖАВАННЕ** - *дождевание* - спосаб палівання сельскагаспадарчых культур, пры якім ваду спецыяльнымі прыстасаваннямі распырскваюць у выглядзе дажджу над паверхняй глебы і раслін.

**ДАМІНАНТНЫЯ ВІДЫ** - *доминантные виды* - віды раслін, якія на дадзенай тэрыторыі колькасна або якасна пануюць у раслінных згуртаваннях - фітацэнозах.

**ДАРЗАВЕНТРАЛЬНАЯ (ДАРСІВЕНТРАЛЬНАЯ) БУДОВА** - *дорзовентральное (дорсивентральное) строение* (ад лац. дарзум - спіна, вентэр - жывот) - будова плоскага органа, у якім можна распазнаць спінны і брушны бакі (напрыклад будова ліста).

**ДАЎГАВЕЧНАСЦЬ НАСЕННЯ** - *долговечность семян* - перыяд, у час якога насенне захоўвае здольнасць да прарастання.

**ДВУХГАДОВЫЯ РАСЛІНЫ, ДВУХЛЕТНІКІ** - *двулетние растения, двулетники* - травяністыя расліны з жыццёвым цыклам (ад насення да насення) на працягу 2 гадоў. На першы год яны развіваюць падземную і надземную вегетатыўныя часткі, на другі - парастак з кветкамі, цвітуць, пладаносяць і адміраюць (лапух, морква, капуста). Адна з жыццёвых форм раслін.

**ДВУХДОЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ** - *двудольные растения* - клас пакрытанасенных раслін, якія характарызуюцца наяўнасцю двух семядолей у зародка насення.

**ДВУХДОМНЫЯ РАСЛІНЫ** - *двудомные растения* - расліны, у якіх жаночыя і мужчынскія генератыўныя органы знаходзяцца на розных асобінах (напрыклад таполя, канопля, шчаўе).

**ДВУХСХІЛЬНЫЯ ПАРНІКІ** - *двухскатные парники* - парнікі, накрытыя дзвюма парніковымі рамамі, якія ўстанаўліваюць з двух бакоў.

**ДВУХСХІЛЬНЫЯ АРАНЖАРЭІ** - *двускатные оранжереи* - аранжарэі з дзвюма плоскасцямі даху, з унутранымі падтрымліваючымі стойкамі і са схіламі даху, якія павернуты на захад і ўсход з вуглом нахілу 24-28 градусаў.

**ДЗІКАРОСЛЫЯ РАСЛІНЫ** - *дикорастущие растения* - група раслін, якія ўваходзяць ў склад прыроднай флоры і здольныя існаваць незалежна ад чалавека.

**ДЗЯЛЕННЕ КАРАНЁВЫХ КЛУБНЯЎ** - *деление корневых клубней* -спосаб вегетатыўнага размнажэння раслін, які заключаецца ў раздзяленні вострым нажом каранёвых клубняў такім чынам, каб кожны з іх меў частку каранёвай шыйкі з 1-2 пупышкамі.

**ДЗЯЛЕННЕ КУСТА, КАРЭНІШЧА** - *деление куста, корневища* - спосаб вегетатыўнага размнажэння раслін, які заключаецца ў дзяленні шматгадовых раслін на часткі, кожная з якіх павінна мець карані і 2-3 парасткі або пупышкі.

**ДЗЯЛЕННЕ СЦЯБЛОВЫХ КЛУБНЯЎ** - *деление стеблевых клубней* - спосаб вегетатыўнага размнажэння раслін, які заключаецца ў дзяленні прарошчаных клубняў на некалькі частак, кожная з частак павінна мець хоць бы адну пупышку.

**ДЗЯРНОВАЯ ЗЯМЛЯ** - *дерновая земля* - цяжкая садовая зямля, якая ўтвараецца у выніку разлажэння дзярніны, нарэзанай на лугах з дзярновымі глебамі і травастоем са злакаў і канюшыны.

**ДРАЖАВАННЕ НАСЕННЯ** - *дражирование семян* - прыём перадпасяўной падрыхтоўкі насення шляхам зацягвання іх ахоўнай пажыўнай абалонкай шарападобнай формы.

**ДРАЎНІНА, АБО КСІЛЕМА** - *древесина, ксилема* (ад грэч. ксілон - дрэва) - комплекс тканак, галоўнай часткай якога з'яўляюцца сасуды і трахеіды, якія праводзяць ваду.

**ДРУЗЫ** - *друзы* - зросткі са шматлікіх крышталёў шчаўевакіслага кальцыю, якія ўтвараюцца ў клетках многіх раслін.

**ДРЭВА** - *дерево* - шматгадовая расліна з выразным адраўнелым галоўным сцяблом (ствалом), які захоўваецца на працягу ўсяго жыцця, утвараючы крону, і разгалінаванай каранёвай сістэмай. Адна з жыццёвых форм раслін.

**ДЫВАНОВЫЯ РАСЛІНЫ** - *ковровые растения* - нізкарослыя расліны з разнастайна афарбаванымі дэкаратыўнымі лістамі, здольныя утвараць пры адпаведнай агратэхніцы суцэльныя дываны, якія пакрываюць глебу.

**ДЫКАРЫЁН** - *дикарион* (ад грэч. діс - два, карыён - ядро) - збліжаная пара гаплоідных ядзер ў адной клетцы; узнікае пры палавым працэсе сумчатых і базідыяльных грыбоў. Зліццё ядзер дыкарыёна адбываецца пры ўтварэнні сумкі або базідыі.

**ДЫМАРФІЗМ** - *диморфизм* (ад грэч. діс - два, морфа - форма):

1) наяўнасць у аднаго віду раслін дзвюх форм асобін, якія адрозніваюцца па знешнім выглядзе (палавы дымарфізм), веснавыя і асеннія формы (сезонны дымарфізм);

2) наяўнасць у раслін дзвюх форм якога-небудзь органа, напрыклад ліста (гетэрафілія), плода (гетэракарпія).

**ДЫСКАВАННЕ** - *дискование* - апрацоўка верхняга слоя глебы дыскавымі баронамі і лушчыльнікамі.



**ДЫСКАМІЦЭТЫ** - *дискомицеты* - група парадкаў сумчатых грыбоў, для якіх характэрны адкрытыя сподачкападобнай формы пладовыя целы - апатэцыі (напрыклад смаржок, страчок).

**ДЫХАГАМІЯ** - *дихогамия* - розначасовае выспяванне ў кветках тычынак (пратэрандрыя) і песцікаў (пратэрагінія), што перашкаджае самаапыленню.

**ДЫХАЗІЙ,РАЗВІЛІНА** - *дихазий,развилина* - сімпадыяльнае (вызначанае) суквецце, у якім галоўная вось заканчваецца кветкай, рост суквецця адбываецца за кошт бакавых восей, якія размешчаныя процілегла і закончаныя кветкай (напрыклад гваздзіка).

**ДЫХАТАМІЧНАЕ ГАЛІНАВАННЕ** - *дихотомическое ветвление* -вілкавае галінаванне, калі верхавінкавая кропка росту дзеліцца на дзве новыя, якія даюць аднолькава ці неаднолькава развітыя галіны (водарасці, грыбы, лішайнікі, імхі, дзераза).

**ДЫЯГРАМА КВЕТКІ** - *диаграмма цветка* (ад грэч. дыяграма - малюнак)- графічны паказ формы, ліку і ўзаемнага размяшчэння частак кветкі пры праекцыі іх на гарызантальную плоскасць.

**ДЭКАРАТЫЎНЫЯ АДЗНАКІ** - *декоративные признаки* - марфалагічныя асаблівасці дэкаратыўных раслін, такія,як памеры і габітус, афарбоўка, велічыня, форма, колькасць і размеркаванне кветак або суквеццяў, лісцяў; даўжыня і трываласць кветканосных парасткаў; велічыня, афарбоўка і форма пладоў, насення, цыбулін і клубнецыбулін.

**ДЭКАРАТЫЎНЫЯ РАСЛІНЫ** - *декоративные растения* - дрэвы, кусты і травяністыя расліны, якія выкарыстоўваюцца для ўпрыгожання населеных месцаў і жылых памяшканняў.

**ДЭКАРЫРАВАННЕ ПАМЯШКАННЯЎ** - *декорирование помещений* - упрыгожванне памяшканняў вечназялёнымі і прыгожаквітнеючымі гаршковымі раслінамі.

**ДЭРМАТАГЕН** - дерматоген (ад грэч. дэрма - скура, генас - нараджэнне) - паверхневы слой клетак апікса кораня, з якога ўтвараецца покрыўная тканка - эпіблема.

**ДЭНДРАЛОГІЯ** - *дендрология* (ад грэч. дэндра - дрэва, логія - вучэнне) - навука пра дрэвавыя расліны - дрэвы, кусты; раздзел батанікі.

**ДЭНДРАРЫЙ** - *дендрарий* (ад грэч. дэндрон - дрэва) - участак батанічнага саду, дзе культывуецца дрэвавая раслiннасць у адкрытым грунце, або спецыяльна закладзены сад, у якім растуць розныя віды дрэў і кустоў.

**ДЭФАЛІЯНТЫ** - *дефолианты* - хімічныя рэчывы, якія ўжываюцца для перадуборачнага вырывання лістоў раслін, галоўным чынам бавоўніка.

**ДЭФАЛІЯЦЫЯ** - *дефолиация* - скіданне раслінай лістоў або штучнае іх вывядзенне.

**ЖОЛУД** - *желудь* - просты аднанасенны мэнакарпны плод, які мае скурысты каляплоднік і плюску са зрошчаных адраўнелых прыкветнікаў (напрыклад дуб).

**ЖЫВАРОДНЫЯ РАСЛІНЫ** - *живородящие растения* - расліны, у якіх на надземных органах (у кветках, суквеццях, пладах, на лісці) фарміруюцца невялічкія зялёныя раслінкі, клубеньчыкі, цыбулінкі, пупышкі і інш., што потым падаюць на зямлю і развіваюцца ў новую асобіну (напрыклад каланхое).

**ЖЫВАЯ АГАРОДЖА** - *живая изгородь* - радавая пасадка з кустарнікаў або дрэў кустовых форм са шчыльна самкнутымі густымі кронамі аднолькавай вышыні.

**ЖЫЛКАВАННЕ** - *жилкование* - вызначанае для кожнага віду размяшчэнне праводзячых пучкоў (жылак) у ліставой пласцінцы. Адрозніваюць дуганярвовае, паралельнае, пальчатае, перыстае і дыхатамічнае жылкаванне.

**ЖЫЦЦЁВАЯ ФОРМА** - *жизненная форма* - форма у якой вегетатыўнае цела расліны знаходзіцца ў адпаведнасці са знешнім асяроддзем на працягу ўсяго жыцця - ад насення (споры) да адмірання (напрыклад дрэва, кусцік, ліяна або фанерафіт, тэрафіт).

**ЖЫЦЦЯЗДОЛЬНАСЦЬ НАСЕННЯ** - *жизнеспособность семян* - колькасць жывога насення, якая выражана ў працэнтах ад агульнай колькасці насення, узятых для аналізу.

**ЗААСПАРАНГІЙ** - *зооспорангий* - орган, у якім утвараюцца заас포്поры.

**ЗААСПОРЫ** - *зооспоры* - споры, якія маюць жгуцікі і здольныя дзякуючы гэтаму актыўна перасоўвацца ў вадзе; сустракаюцца ў многіх водарасцей і некаторых ніжэйшых грыбоў.

**ЗААФІЛІЯ** - *зоофилия* - перакрыжаванае апыленне раслін з дапамогай жывёл.

**ЗААХОРЫЯ** - *зоохория* - распаўсюджванне пладоў, насення і спор пры дапамозе жывёл.

**ЗАВІТОК** - *завиток* - монахазіяльнае сімпадыяльнае (вызначанае) суквецце, у якога галоўная вось заканчваецца кветкай і далейшы рост суквецця ажыццяўляецца за кошт бакавых восей, накіраваных у адзін бок, якія заканчваюцца кветкай (напрыклад незабудка).

**ЗАВЯДАННЕ РАСЛІН** - *завядание растений* - страта раслінамі тургара з прычыны парушэння воднага балансу.



**ЗАВЯЗЬ** - *завязь* - ніжняя расшыраная полая (пустая) усярэдзіне частка песціка, у якой утвараюцца семязачаткі (семяпочкі). Адрозніваюць верхнюю, ніжнюю і сярэднюю завязі.

**ЗАГАРТОЎВАННЕ РАСЛІН** - *закаливание растений* - павышэнне зімаўстойлівасці і трываласці раслін да іншых неспрыяльных уздзеянняў асяроддзя.

**ЗАЛОЗА** - *железа*

**ЗАМОЧВАННЕ НАСЕННЯ** - *замачивание семян* - увільгатненне насення перад пасевам для паскарэння яго прарастання і з'яўлення ўсходаў.

**ЗАНЯТЫ ПАПАР** - *занятый пар* - папарны палетак севазвароту, які заняты ў першай палове лета ранаэбіраемымі сельскагаспадарчымі культурамі, пасля ўборкі якіх праводзіцца папарная апрацоўка глебы.

**ЗАРАЖАНАСЦЬ НАСЕННЯ** - *зараженность семян* - паказчык якасці насення, які характарызуе іх пашкоджанасць хваробамі і шкоднікамі.

**ЗАРАСНІК** - *заросль*, поросль; кустарник.

**ЗАРОДАК** - *зародыш* - частка семені (насення); развіваецца з аплодненай яйцаклеткі і складаецца з карэньчыка, сцяблінкі, пупышкі і семядолей.

**ЗАСМЕЧАНАСЦЬ НАСЕННЯ** - *засоренность семян* - утрыманне ў семені прымесі (у %).

**ЗАСУХАЎСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІН** - *засухоустойчивость растений* - здольнасць раслін супрацьстаяць засусе.

**ЗВІЛІНА** - *извилина* - монахазіяльнае вызначанае (сімпадыяльнае) суквецце, у якога галоўная вось заканчваецца кветкай і далейшы рост суквецця адбываецца за кошт бакавых, размешчаных чаргова ў абодва бакі восей, якія заканчваюцца кветкай (напрыклад гладыёлус).

**ЗІГАГАМІЯ** - *зигогамия, конъюгация* - форма палавога працэсу, якая заключаецца ў зліцці пратапластаў дзвюх аднолькавых клетак.

**ЗІГАМОРФНАЯ КВЕТКА, НЯПРАВІЛЬНАЯ** - *зигоморфный цветок, неправильный* - кветка, праз якую можна правесці толькі адну плоскасць сіметрыі, якая дзеліць яе на дзве роўныя палавіны (напрыклад фіялка).

**ЗІГАСПОРА** - *зигоспора* - прадукт палавога працэсу ў некаторых водарасцей (кан'югантаў, сцаплянак) і грыбоў (зігаміцэтаў); мае тоўстую абалонку і прарастае пасля болей або меней працяглага стану спакою.

**ЗІГОТА** - *зигота* - клетка з дыплоідным (двайным) наборам храмасом, якая ўтварылася ў выніку зліцця дзвюх гамет.

**ЗІМАЎСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІН** - *зимостойкость растений* - здольнасць раслін супрацьстаяць дрэнным умовам зімоўкі.

**ЗІМОВАЗЯЛЁНЫЯ РАСЛІНЫ** - *зимнезеленые растения* - расліны, якія зімуюць з зялёным (асімілíруючым) лісцем.

**ЗІМОВАЯ ПРЫШЧЭПКА** - *зимняя прививка* - прышчэпліванне ў зімозы перыяд да загадзя падрыхтаванай прышчэпы.

**ЗІМОВЫЯ ПАЛІВЫ** - *зимние поливы* - палівы, якія праводзяць зімою.

**ЗМЕШАНЫЯ ЎДАБРЭННІ, ТУКАСУМЕСІ** - *смешанные удобрения, тукосмеси* - сумесі гатовых удабрэнняў, якія ўключаюць два і болей неабходныя раслінам спажыўныя рэчывы.

**ЗЯБЛЕВАЯ АПРАЦОЎКА ГЛЕБЫ** - *зяблевая обработка почвы* - летне-асенняя апрацоўка глебы пад пасеў яравых культур вясной наступнага года.

**ЗЯЛЁНАЕ ЎГНАЕННЕ** - *зеленое удобрение* - свежая зялёная маса пераважна бабовых раслін-сідэратаў, якую заворвалі ў глебу для абагачэння яе арганічным рэчывам і азотам.

**ЗЯРНОЎКА** - *зерновка* - просты нераскрыты плод з тонкім каляплоднікам, які зросся са скурай насення (злакі).

**ІЗАГАМІЯ** - *изогамия* - форма палавога працэсу ў некаторых ніжэйшых раслін (водарасцей, грыбоў), калі абедзве гаметы рухомыя і аднолькавыя па памерах.

**ІЗАЛАТЭРАЛЬНАЕ ЛІСЦЕ** - *изолатеральные листья* - лісце, якое мае аднародны мезафіл, недыферэнцыраваны на слупковую і губчатую тканкі (напрыклад лён, лябеднік, нарцыс).

**ІЗІДЫЯ** - *изидия* (ад грэч. ізіс - адна з форм караляў, эйдас - від) - орган вегетатыўнага размнажэння некаторых лішайнікаў, які ўяўляе сабой вырасты на паверхні талома (слаявішча), якія абломліваюцца і даюць пачатак новаму талому (слаявішчу).

**ІМШАРА, АМШАРА** - *моховое болото.*

**ІНСЕКТЫЦЫДЫ** - *инсектициды* - хімічныя рэчывы для знішчэння шкодных насякомых.

**ІНДУЗІЙ** - *индузий* - пакрывальца, якое прыкрывае групы спарангіяў (сорусы) на лісцях многіх папарацей.

**ІНДЫКАТАРНЫЯ РАСЛІНЫ, ФІТАІНДЫКАТАРЫ** - *индикаторные растения* (ад лац. indico - указваю, вызначаю) - расліны, характэрныя для пэўных экалагічных умоў, якія таму могуць якасна або колькасна ацэньвацца па прысутнасці гэтых раслін.

**ІНІЦЫЯЛЬНЫЯ КЛЕТКІ** - *инициальные клетки* (ад лац. ініцыяліс - пачатковы) - клеткі кропак росту, якія, нараджаючы шляхам



дзялення даччыную клетку, адпаўляюць сваю папярэднюю форму і велічыню і застаюцца нязменна мерыстэматычнымі.

**ІНТЫНА** - *интина* - унутраная абалонка спор у споравых раслін або пылковых зярнят у насенных раслін.

**ІНТРАДУКАВАНЫЯ РАСЛІНЫ** - *интродуцированные растения* -віды, сарты і формы раслін, перанесеныя ў мясцовасці, дзе яны раней не раслі.

**ІНТЭГУМЕНТ** - *интегумент* - покрыва семяпочкі; пасля апладнення ператвараецца ў лупіну насення.

**ІНТЭРКАЛЯРНАЯ МЕРЫСТЭМА, УСТАВАЧНАЯ МЕРЫСТЭМА** - *интерколярная меристема, вставочная меристема* - утваральная тканка, размешчаная паміж зонамі пастаянных тканак (напрыклад у аснове лісця, тычынак, сцябла злакаў).

**КАЛАТЭРАЛЬНЫ ПУЧОК (БАКАБОЧНЫ ПУЧОК)** - *коллотеральный пучок* - праводзячы пучок, у якім драўніна і луб далучаюцца адзін да аднаго бок у бок (драўніна бліжэй да падоўжнай восі органа, луб - да перыферыі). Бываюць закрытымі - не маюць камбію, адкрытымі - маюць камбій паміж драўнінай і лубам. Характэрныя для лісцяў і большасці сцёблаў травяністых раслін.

**КАЛЕНХІМА** - *колленхима* - жывая парэнхімная механічная тканка з нераўнамерна патоўшчанымі клетачнымі абалонкамі.

**КАЛЕОПТЫЛЬ** - *колеоптиль* - першы ліст праросткаў злакаў; мае форму каўпачка, унутры якога знаходзяцца наступныя лісты.

**КАЛІЙНЫЯ ЎДАБРЭННІ** - *калийные удобрения* - мінеральныя рэчывы, якія ўтрымліваюць калій у даступнай для раслін форме.

**КАЛІПТРАГЕН** - *калиптроген* - вонкавы слой клетак апікса карання, які стварае каранёвы чахольчык.

**КАЛУС** - *каллус:*

1) мазолістае цела, якое закупорвае сітападобныя трубкі;

2) наплыў на паверхні раслін, якія паранены; атрымоўваецца шляхам росту і дзялення жывых клетак аголеных тканак.

**КАЛЯКВЕТНІК** - *околоцветник* - покрыва кветкі, якое складаецца з чашачкі і венчыка. Выконвае ахоўную функцыю і прываблівае насякомых (венчык).

**КАЛЯПЛОДНІК** - *околоплодник* - частка плода, якая ўтвараецца са сценак завязі песціка. Складаецца з 3 слаёў: вонкавы - экзакарпій, сярэдні - мезакарпій, унутраны - эндакарпій.

**КАЛЬЦЭФІЛЫ** - *кальцефилы* - расліны, якія добра растуць на глебах, багатых кальцыем (напрыклад лістоўніца еўрапейская, піхта белая).

**КАЛЬЦЭФОБЫ** - *кальцефобы* - расліны, якія адмоўна рэагуюць на наяўнасць солей кальцыю ў глебе і добра растуць на глебах з кіслай ці нейтральнай рэакцыяй (напрыклад падбел звычайны, кладоніі).

**КАЛЬЧАКОВАЕ ЛІСТАРАЗМЯШЧЭННЕ** - *мутовчатое листорасположение* - калі ў сцябловым вузле знаходзіцца 3 лісты і болей (напрыклад маруна).

**КАЛІБРАВАННЕ НАСЕННЯ, КАЛІБРОЎКА НАСЕННЯ** - *калиброваниe семян, калибровка семян* - раздзяленне насення па памерах на фракцыі (групы), якія адпавядаюць памерам ячэек высяваючых апаратаў сеялак.

**КАМБІЙ** - *камбий* - другасная бакавая утваральная тканка, дзяленне клетак якой прыводзіць да фарміравання другасных драўніны і лубу.

**КАМБІФОРМ** - *камбиформ* - выцягнутыя танкасценныя клеткі лубу, па форме падобныя на трахеіды.

**КАМПОСТАВАЯ ЗЯМЛЯ** - *компостная земля* - садовая зямля, якая атрымоўваецца пры кампаставанні ў штабелях або ямах адходаў жывёльнага або расліннага паходжання.

**КАМПОСТЫ** - *компосты* - угнаенні, атрыманыя ў выніку разлажэння розных арганічных рэчываў пераважна расліннага паходжання або адкідаў сельскай і камунальнай гаспадаркі.

**КАМЯНІСТЫ САД (К.С.), АЛЬПІНАРЫЙ** - *альпинарий* - участак у батанічным садзе, скверы або парку, створаны для вырошчвання горных (альпійскіх) раслін ва ўмовах, набліжаных да натуральных; дэкаратыўны К.С. называецца такстама ракарыем.

**КАНДЫЦЫЙНАЕ НАСЕННЕ** - *кондиционные семена* - насенне, якое адпавядае патрабаванням норм якасці па ўсіх паказчыках (чысціня, усходжасць, вільготнасць і г.д.), прадугледжаных стандартамі на насенне.

**КАНІДЫІ** - *конидии* - споры бясполага размнажэння многіх грыбоў, якія адчляняюцца на канцах асобных вертыкальных адгалінаванняў міцэлію - канідыяносьбітах.

**КАНТРОЛЬНА-НАСЕННЫ АНАЛІЗ** - *контрольно-семенной анализ* - праверка пасяўных і гатункавых якасцяй насеннага матэрыялу с.-г. культур.

**КАНТРОЛЬНА-НАСЕННАЯ СПРАВА** - *контрольно-семенное дело* -сістэма мерапрыемстваў па кантролі за якасцю насеннага матэрыялу с.-г. культур.

**КАНЦЭНТРЫЧНЫ ПУЧОК** - *концентрический пучок* - праводзячы пучок, у якім драўніна акружае луб (амфівазальны) або луб акружае драўніну (амфікрыбральны). Характэрны для падземных сцёблаў - карэнішч папарацей, ландыша, купены.



**КАН'ЮГАЦЫЯ** - *конъюгация* - гл. зігагамія.

**КАПУЛІРОЎКА** - *копулировка* - спосаб прышчэпкі чаранком, які прымяняецца пры аднолькавай таўшчыні прышчэпкі і прышчэпа.

**КАРАНЁВАЕ ЖЫЎЛЕННЕ РАСЛІН** - *корневое питание растений* - усваенне раслінамі вады і мінеральных солей з глебы праз каранёвую сістэму.

**КАРАНЁВАЯ СІСТЭМА (К.С.)** - *корневая система (к.с.)* - сукупнасць усіх каранёў расліны. Адрозніваюць 2 асноўныя тыпы к.с.: стрыжнёвую з добра выяўленым галоўным коранем і валасніковістую з развітымі прыдатковымі каранямі.

**КАРАНЁВАЯ ШЫЙКА** - *корневая шейка* - умоўная мяжа паміж коранем і сцяблом.

**КАРАНЯКЛУБНЕВЫЯ РАСЛІНЫ** - *корнеклубневые растения* - расліны, у якіх адбываецца патаўшчэнне бакавых і прыдатковых каранёў з утварэннем мясістых каранёвых клубняў (каранёвых шышак). Напрыклад віды вяргіні, ятрышніку.

**КАРАНЯПАРАСТКАВЫЯ РАСЛІНЫ** - *корнеотпрысковые растения* -расліны, здольныя на працягу ўсяго вегетатыўнага перыяду з прыдаткавых пупышак на каранях развіваць надземныя парасткі - каранёвыя атожылкі і імі лёгка размнажацца (напрыклад асіна, вішня, сліва, ажына, бэз, маліна, асот, хрэн).

**КАРАНЯПЛОДНЫЯ РАСЛІНЫ** - *корнеплодные растения* - расліны, у якіх адбываецца патаўшчэнне галоўнага кораня з утварэннем мясістых караняплодаў (напрыклад буракі, морква, пятрушка, рэпа і г.д.).

**КАРОБАЧКА** - *коробочка* - просты многасемянны плод, які ўтвораны з двух і болей пладалісцікаў і раскрываецца дзірачкамі (мак), накрыўкай (блёкат), зубчыкамі (гваздзік) альбо палавінкамі (бэз).

**КАРЫЯГАМІЯ** - *кариогамия* - зліццё ядзер пры палавым працэсе.

**КАРЫЯКІНЭЗ, МІТОЗ** - *кариокинез, митоз* - непрамое дзяленне ядра; заключаецца ў тым, што ядро мацярынскай клеткі распадаецца на храмасомы, кожная з якой расшчапляецца ўздоўж, пасля гэтага палавінкі храмасом разыходзяцца да полюсаў клеткі і ўтвараюць два даччыныя ядры.

**КАРЭНІШЧА** - *корневище* - відазмененыя, падземны парастак шматгадовых частак травяністых раслін (напрыклад у пырніку, ландыша, сніткі).

**КАРЭНІШЧАВЫЯ РАСЛІНЫ** - *корневищные растения* - шматгадовыя травяністыя расліны з падземнымі відазмененымі сцёбламі-карэнішчамі (напрыклад валер'ян, купена, півоня, ландыш).

**КАРЭННЫ ЧАРАНОК** - *корневой черенок* - частка кораня матачнай расліны дыяметрам 0,5-1,5 см і даўжынёй 5-10 см, нарыхтаваная позняй восенню або ранняй вясной.

**КАСМАПАЛІТЫ** - *космополиты* - віды раслін, шырока распаўсюджаныя па ўсіх кантынентах зямнога шара (напрыклад трыснёг, дурнап'ян, рагоз).

**КАСЦЯЧКА** - *костянка* - сакавіты аднасемянны плод з дравяністай унутранай часткай каляплодніка (эндакарпій), мясістым папярэднім слоем (мезакарпій) і шчыльным вонкавым слоем (экзакарпій), напрыклад сліва, вішня.

**КАТАШОК** - *сережка* - монападыяльнае (нявызначанае) суквецце з панікай гнуткай воссю і сядзячымі кветкамі (вярба, таполя).

**КАТЭГОРЫЯ НАСЕННЯ** - *категория семян* - якасныя групы насення рознай гатунковай каштоўнасці, якія характарызуюцца гранічнымі нормамі (у %) гатунковай чыстаты або тыповасці.

**КАУЛІФЛОРЫЯ** - *каулифлория* - развіццё кветак не на маладых парастках, а прама на ствале або старых галінах (напрыклад шакаладнае дрэва).

**КАЭФІЦЫЕНТ РАЗМНАЖЭННЯ НАСЕННЯ** - *коэффициент размножения семян* - адносіны вагі (або ліку) насення, атрыманага ва ўраджаі, да вагі (або ліку) высеянага насення.

**КВАДРАТНА-ГНЕЗДАВАЯ СЯЎБА** - *квадратно-гнездовой посев* -спосаб сяўбы с.-г. культур, пры якім расліны размяшчаюць па некалькі штук гнёздамі па вуглах квадрата (прамавугольніка).

**КВАДРАТНАЯ СЯЎБА** - *квадратный посев* - спосаб сяўбы с.-г. культур, пры якім расліны размяшчаюць па адной па вуглах квадрата.

**КВЕТКА** - *цветок* - відазменены пакарочаны парастак, прызначаны для ўтварэння спор, гамет і для перакрыжаванага апылення.

**КВЕТКАВА-ДЭКАРАТЫЎНЫЯ РАСЛІНЫ (К.-Д.Р.)** - *цветочно-декоративные растения* - травяністыя расліны, якія выкарыстоўваюцца ў кветкаводстве для азелянення населеных месцаў і ўпрыгожвання жылых памяшканняў. Дэкаратыўная каштоўнасць К.-Д.Р. вызначаецца іх памерамі і будовай куста (габітусам), афарбоўкай, формай лісця, кветак і пладоў.

**КВЕТКАВОДСТВА** - *цветоводство* - галіна раслінаводства, якая займаецца вырошчваннем кветкава-дэкаратыўных раслін для ўпрыгожвання садоў, паркаў, вуліц, забеспячэння насельніцтва кветкамі.



**КВЕТАЛОЖА** - *цветоложе* - верхняя расшыраная кветканожка, служыць для прымацавання ўсіх астатніх частак кветкі. Частка кветкі.

**КВЕТАНОЖКА** - *цветоножка* - частка кветкі сцябловага паходжання, якая служыць для прымацавання кветкі да сцябла.

**КВЕТНІК** - *цветник* - участак з пасадкамі кветкава-дэкаратыўных раслін для ўпрыгожвання пляцовак, садоў і паркаў, уздоўж дарог і дарожак, перад будынкамі і г.д.

**КВЕЦЕНЬ** - *цветение.*

**КЛАСЫ НАСЕННЯ** - *классы семян* - якасныя групы насення рознай пасяўной каштоўнасці.

**КЛЕЙСТАГАМНЫЯ КВЕТКІ** - *клейстогамные цветки* - кветкі, якія не раскрываюцца (напрыклад у архідэі, кісліцы, фіялкі, падалешніку). Прыстасаванне раслін да самаапылення альбо аўтагаміі.

**КЛЕЙСТАКАРПІЙ** - *клейстокарпий*, клейстотеций - замкнутае пладовае цела, сумкі вызваляюцца толькі пры разбурэнні яго абалонкі. Характэрна для сумчатых грыбоў.

**КЛЕТКА** - *клетка* - элементарная жывая сістэма, аснова будовы і жыццядзейнасці ўсіх раслін і жывёл.

**КЛОН** - *клон* - патомства аднаго расліннага арганізма, якое ўтвараецца шляхам вегетатыўнага размнажэння.

**КЛУБЕНЬ** - *клубень* - патаўшчэнне падземнага парастка, падсемядольнага калена або прыдатковага кораня ў раслін.

**КЛУБНЕЦЫБУЛІНА** - *клубнелуковица* - патоўшчаная аснова сцябла з плевачнымі або скурыстымі лістамі наверсе.

**КЛУБНЕЦЫБУЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ** - *клубнелуковичные растения* -расліны з укарочанымі падземнымі парасткамі - клубнецыбулінамі (напрыклад крокус, гладыёлус).

**КЛУБНЕВЫЯ РАСЛІНЫ** - *клубневые растения* - расліны з відазмененымі мясістымі парасткамі - клубнямі (напрыклад бульба, кальрабі, цыкламен).

**КЛУМБА** - *клумба* - кветнік, засаджаны дэкаратыўнымі раслінамі, які мае закончаную геаметрычную форму і памеры ад 3 да 30 кв.м.

**КОЛАС** - *колос* - монападыяльнае суквецце, на восі якога размешчаны сядзячыя кветкі (трыпутнік).

**КОМПЛЕКСНЫЯ ЎДАБРЭННІ** - *комплексные удобрения* - арганічныя і мінеральныя ўдабрэнні, якія ўтрымліваюць некалькі пажыўных рэчываў, неабходных для раслін.

**КОРАНЬ** - *корень* - вегетатыўны орган вышэйшых лістасцябловых раслін (акрамя моху), які выконвае функцыі замацавання расліны ў гле-

бе, паглынання вады і мінеральных рэчываў, прызапашвання пажыўных рэчываў і інш.

**КОШЫК** - *корзина* - простае монападыяльнае суквецце; галоўная вось укарочана і расшырана, акружана абгорткай з аднаго ці некалькіх радоў прыкветнікаў (сланечнік, рамонак, васілёк, ястрабок).

**КРЫЛАТКА** - крылатка - простыя аднасемянны плод, які не раскрываецца і каляплоднік якога мае крылападобныя вырасты (напрыклад вяз, ясень).

**КРЫПТАФІТЫ** - *криптофиты* - шматгадовыя травяністыя расліны, надземныя органы якіх на зіму адміраюць, а пупышкі ўзнаўлення закладваюцца на карэнішчах, клубнях, цыбулінах і інш. і скрыты ў глебе (геафіты), у вадзе (гіграфіты) або ў балоце (гелафіты).

**КСЕНАГАМІЯ** - *ксеногамия* - перакрыжаванае апыленне, г.з. перанос пылку з кветкі адной асобіны на рыльца кветкі другой асобіны.

**КСЕРАФІТЫ** - *ксерофиты* - расліны засушлівых мясцін, здольныя пераносіць працяглую атмасферную і глебавую засуху (напрыклад цмен пясчаны, лішайнікі).

**КСІЛЕМА** - *ксилема* - гл. драўніна.

**КУЛЬТУРААБАРОТ** - *культурооборот* - чаргаванне культур у культывацыйных збудаваннях (цяпліца, аранжарэя) або ва ўцепленым грунце на працягу аднаго года.

**КУЛЬТЫВАЦЫЯ** - *культивация* - рыхленне апрацаванай глебы без пераварочвання разрыхленага слоя з адначасовым падразаннем пустазелля.

**КУЛЬТЫВАЦЫЙНЫЯ АРАНЖАРЭІ** - *культивационные оранжереи* -аранжарэі, якія прызначаны для ўтрымання на працягу доўгага часу трапічных і субтрапічных цеплалюбівых дэкаратыўных раслін.

**КУСТОЎЕ, АБО ХМЫЗНЯК** - *кустарник* - шматсцябловая адраўнелая расліна, вышыня якой не перавышае 4-6 м, а працягласць жыцця аднаго сцябла 10-40 гадоў (напрыклад маліна, барбарыс, парэчкі). Адна з жыццёвых форм раслін

**КУСЦІК** - *кустарничек* - адрозніваецца ад кустоўя мен- шымі памерамі і працягласцю жыцця сцёблаў 5-10 гадоў (напрыклад буякі, брусніцы, журавіны, чарніцы, верас). Адна з жыццёвых форм раслін.

**КУТЫКУЛА** - *кутикула* - тонкая празрыстая пленка тлушчападобнага рэчыва - кутына, якая пакрывае паверхню лісця і маладых сцёблаў; выконвае ахоўную функцыю.

**КУСЦІСТЫЯ ЛІШАЙНІКІ** - *кустистые лишайники* - лішайнікі, якія маюць выгляд кусцікаў, злучаных з субстратам невялікай часткай слаявіны (напрыклад кладоніі).



**ЛАДЫКУЛЫ** - *лодикулы* - маленькія бескаляровыя калякветкавыя плеўкі, якія набухаюць у час цвіцення, што садзейнічае раскрыванню кветкі; сустракаюцца ў кветцы большасці злакаў.

**ЛАТЭКС** - *латэкс* - млечны сок, вадкасць, якая запаўняе млечнікі і ўтрымлівае бялкі, цукар, камедзі, алкалоіды, смалу і іншыя рэчывы. Бывае белы (дзьмухавец) або афарбаваны (аранжавы - чыстацел (падтыннік).

**ЛАТЭРАЛЬНЫЯ** - *латеральные* - бакавыя (органы, мерыстэмы), якія размеркаваны ў баку ад восевай лініі.

**ЛЕЙКАПЛАСТ** - *лейкопласт* - бясколерныя пластыды, асноўная функцыя якіх - сінтэз і накапленне запасных прадуктаў - бялкоў (пратапласты), крухмалу (амілапласты) і тлушчу. Сканцэнтраваны пераважна ў частках раслін, якія не маюць зялёнай афарбоўкі.

**ЛІБРЫФОРМ** - *либриформ* - склерэнхіма драўніны; складае значную частку драўніны ліставых парод, у хваёвых адсутнічае.

**ЛІГНІН** - *лигнин* - суцэльнае арганічнае рэчыва араматычнага рада, нераствaральнае ў вадзе; насычае клетачныя абалонкі пры іх адраўненні.

**ЛІЗАСОМЫ** - *лизосомы* - сферычныя аднамембранныя арганелы клеткі, якія ўтрымліваюць гідралітычныя ферменты, што пачкараюць дэструкцыю многіх рэчываў.

**ЛІЗІКАРПНЫ ГІНЕЦЭЙ** - *лизикарпный гинецей* - цэнакарпны гінецэй з аднагняздовай завяззю, у цэнтры якой захоўваецца вось з семязачаткамі.

**ЛІСТ** - *лист* - бакавы плагіятропны вегетатыўны орган абмежаванага росту, нарастаючы асновай. Адказвае за фотасінтэз, транспірацыю, газаабмен.

**ЛІСТАВАЯ ЗЯМЛЯ** - *листовая земля* - садовая зямля, якая ўтвараецца з перапрэлых лістоў дрэвавых раслін (клёна, бярозы, асіны, пладовых).

**ЛІСТАВАЯ МАЗАІКА** - *листовая мозаика* - такое размеркаванне лістоў, пры якім яны не зацяняюць адзін аднаго.

**ЛІСТАВЫ РУБЕЦ** - *листовой рубец* - застаецца на сцябле пасля ападання ліста.

**ЛІСТАВЫ СЛЕД** - *листовой след* - канцы абарваных праводзячых пучкоў, якія бачны на паверхні ліставога рубца.

**ЛІСТАВЫ ЧАРАНОК** - *листовой черенок* - цэлы ліст з чаранком (сенполія, бягонія) або яго частка (сансеўера, бягонія) з жылкай і пяткай ад чаранка ліста.

**ЛІСТАРАЗМЯШЧЭННЕ** - *листорасположение* - характар размеркавання лістоў на сцябле. Адрозніваюць:

1) чарговае, або спіральнае - лісты размеркаваны па адным на кожным вузле;

2) процілеглае - унутры знаходзяцца два лісты, якія размеркаваны насупраць (крапіва, клён, бэз);

3) кальчакаватае - калі вузел мае тры лісты і болей (алеандр, маруна).

**ЛІТАФІТЫ** - *литофиты* - расліны, якія растуць на камянях і на скалах.

**ЛІСТОЎКА** - *листовка* - апакарпны плод, сухі, звычайна шматнасенны, аднагняздовы, які раскрываецца па шве зрастання пладалісціка (ватачнік, сакірка).

**ЛІШАЙНІКІ** - *лишайники* - група своеасаблівых комплексных найніжэйшых арганізмаў, якія ўтварыліся на аснове сімбіёзу грыба і водарасці.

**ЛІЯНЫ** - *лианы* - адна з жыццёвых форм раслін; маюць доўгае сцябло і патрабуюць падтрымкі ( напрыклад хмель, гарох, вінаград).

**ЛУБ, ФЛАЭМА** - *луб, флоэма* - комплекс тканак, галоўнай састаўной часткай якога з`яўляюцца сітападобныя трубкі з клеткамі-пацарожніцамі або без іх. Адказваюць за правядзенне арганічных рэчываў.

**ЛУШЧЭННЕ** - *лущение* - дробная апрацоўка глебы на глыбіню 6-14 см, якая заключаецца ў паверхневым рыхленні, падрэзванні пустазелля і ў частковым пераварочванні глебы. Папярэднічае глыбокаму зябламу ворыву; з`яўляецца адным з найважнейшых прыёмаў у сістэме апрацоўкі чыстага папару ў вясенне-летні перыяд.

**МАКРАСПОРА, МЕГАСПОРА** - *макроспора (мегаспора)* - тая са спор, утвараемых разнаспоравымі раслінамі, з якой развіваецца жаночы гаметафіт.

**МАКРАСПАРАНГІЙ** - *макроспорангий (мегаспорангий)* - спарангій, у якім развіваюцца макраспоры; у насенных раслін макраспарангіямі з`яўляюцца семяпочкі.

**МАКРАСПАРАФІЛ (МЕГАСПАРАФІЛ)** - *макроспорофиллы (мегаспорофиллы)* - відазмененае лісце, на якім развіваюцца макраспарангіі; у хвойных макраспарангафіламі з`яўляюцца насенныя лускавінкі шышак, у кветкавых - пладалісцікі.

**МАКРАФІТЫ** - *макрофиты* - прыстасаваныя да жыцця ў вадзе кветкавыя і споравыя расліны. Вылучаюць макрафіты: прыбярэжныя (асокі, незабудка, лотаць), земнаводныя (стрэлкаліст, касачы, рагозы), паўапушчаныя (рдзест, гарлачык белы і жоўты, раска), апушчаныя (харавыя водарасці).



**МАНАХАЗІЙ** - *монохазий* - вызначанае (сімпадыяльнае) суквецце, у якога галоўная восі заканчваецца кветкай; ніжэй яго развіваецца восі другога парадку, якая перарастае галоўную і нясе кветку і г.д. (завіток, звіліна).

**МАРОЗАЎСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІН** - *морозоустойчивость растений* - здольнасць раслін выжываць у перыяд кароткачасовых замаразкаў і працяглых зімовых маразоў.

**МАРФАЛОГІЯ РАСЛІН** - *морфология растений* - навука пра будову і працэсы формаўтварэння раслін у іх індывідуальным і гістарычным развіцці; раздзел securityбатанікі.

**МАСІЎ** - *массив* - суцэльныя пасадкі кветкавых раслін аднаго або многіх відаў на значнай тэрыторыі.

**МЕЗАПЛАЗМА** - *мезоплазма* - пасярэдняя частка пратаплазмы, адмежаваная ад клетачнай абалонкі плазмалемай, а ад вакуолі - танапластам.

**МЕЗАФІЛ, ХЛАРЭНХІМА** - *мезофилл, хлоренхима* - асіміляцыйная тканка, якая складае аснову ліставой пласцінкі, часта бывае дыферэнцыравана на губчатую, слупкаватую, складкаватую.

**МЕЗАФІТЫ** - *мезофиты* - расліны ўмерана ўвільготненых месцаў росту (напрыклад канюшына, кісліца, ландыш).

**МЕЁЗ** - *мейоз* - тып дзялення ядра, у выніку якога з мацярынскай клеткі ўзнікаюць 4 клеткі з гаплоідным (адзінарным) наборам храмасом.

**МЕРЫСТЭМА** - *меристема* - утваральная тканка, якая складаецца з клетак, якія даюць шляхам дзялення новыя клеткі.

**МЕТАД МЕРЫСТЭМНАЙ КУЛЬТУРЫ** - *метод меристемной культуры* - вырошчванне культур з мерыстэмнай тканкі расліны.

**МЕТАМАРФОЗ РАСЛІН** - *метаморфоз растений* - відазмяненні вегетатыўных органаў у выніку змен іх функцый ці ўмоў існавання.

**МІЖВУЗЕЛЛЕ** - *междоузлие* - участак сцябла паміж двума вузламі.

**МІЖКЛЕТНІКІ** - *межклетники* - прастора ў месцах кантактаў некалькіх клетак.

**МІКАБІЁНТ** - *микобионт* - гл. лішайнік.

**МІКАРЫЗА, ГРЫБАКОРАНЬ** - *микориза, грибокорень* - сімбіёз грыбоў з каранямі вышэйшых раслін. Адрозніваюць мікарызу эктатрофную (вонкавую), эндатрофную (унутраную) і эктаэндарофную (пераходную).

**МІКРАСПАРАНГІЙ** - *микроспорангий* - спарангій, у якім развіваюцца мікраспоры; у насенных раслін гэта гнёзды пылкікаў.

**МІКРАСПАРАФІЛЫ** - *микроспорофиллы* - відазмененае лісце, на якім развіваюцца мікраспарангії; у кветкавых гэта тычынкі.

**МІКРАСПОРА** - *микроспора* - спора, якая дае пачатак мужчынскаму гаметафіту ў разнаспоравых раслін; у насенных раслін мікраспорамі з`яўляюцца пылковыя зерні (пылок).

**МІКРАЎГНАЕННІ** - *микроудобрения* - угнаенні, у якіх утрымліваюцца неабходныя для жыцця раслін мікраэлементы.

**МІКРОПІЛЕ** - *микропиле* - пылкаўваход, адтуліна ў покрывах семяпупышкі, праз якую ў многіх раслін пранікае пылковая трубка.

**МІКСБАРДЭР** - *миксбордер* - квітнеючая міжрадковая пасадка кветак у пейзажнай планіроўцы ўздоўж сцен, дарожак, алей.

**МІНЕРАЛЬНЫЯ ЎДАБРЭННІ** - *минеральные удобрения* - мінеральныя солі, а таксама некаторыя другія хімічныя злучэнні, якія ўтрымоўваюць неабходныя для раслін пажыўныя рэчывы.

**МІРМЕКАХАРЫЯ** - *мирмекохория* - распаўсюджванне мурашкамі насення і іншых зачаткаў раслін (фіялкі, чыстацел, шчымяліца і інш.).

**МІТАХОНДРЫІ** - *митохондрии* - двухмембранныя арганелы клеткі, ніткападобнай або сферычнай формы; у іх ажыццяўляецца працэс дыхання, з`яўляюцца акісляльна-аднаўленчымі цэнтрамі клеткі.

**МІТОЗ** - *митоз* - гл. карыёкінэз.

**МІЦЭЛІЙ, ГРЫБНІЦА** - *мицелий, грибница* - вегетатыўнае цела грыбоў, якое складаецца з ніцей - гіфаў, што пераплятаюцца.

**МНАГАЛЕТНІКІ ДЭКАРАТЫЎНЫЯ** - *многолетники декоративные* -кветкава-дэкаратыўныя расліны, якія жывуць болей за два вегетацыйныя перыяды.

**МНАГАДОМНЫЯ РАСЛІНЫ** - *многодомные растения* - пакрытанасенныя расліны, якія разам з двухполымі кветкамі маюць аднаполыя (напрыклад ясень, шаўкоўніца, каштан конскі, грэчка, сланечнік, незабудка і інш.).

**МОНАКАРПІЧНЫЯ РАСЛІНЫ** - *монокарпические растения* - расліны, якія цвітуць адзін раз у жыцці і пасля цвіцення і плоданашэння адміраюць (усе адна- і двухгадовыя расліны, некаторыя шматгадовыя - бамбук, агава).

**МОНАКУЛЬТУРА** - *монокультура* - працяглае безупыннае вырошчванне якога-небудзь аднаго віду раслін на адным і тым жа ўчастку без захоўвання севазвароту і чаргавання з іншымі с.-г. культурамі.



**МОНАПАДЫЯЛЬНАЕ ГАЛІНАВАННЕ** - *моноподиальное ветвление* -галінаванне, пры якім галоўная вось расце ў даўжыню за кошт верхавінкавай пупышкі на працягу ўсяго жыцця расліны і бакавыя галіны ўтвараюцца з пазушных пупышак (напрыклад папараці, хвашчы, сасна, елка, лістоўніца).

**МОНАСАДЫ** - *моносады* - участкі, дзе высаджаны расліны аднаго роду, віду (ружы, касачы і г.д.), але вялікай гатунковай разнастайнасці.

**МУЛЬЧЫРАВАННЕ** - *мульчирование* - прыём агратэхнікі, які ўжываецца ў сельскай гаспадарцы; заключаецца ў суцэльным або міжрадковым пакрыцці глебы рознымі матэрыяламі - мульчай (мульчпапера, перагной, кампост, торф, пілавінне, апаўшае лісце і інш.).

**МЯСЦОВАЕ ЎНЯСЕННЕ ЎГНАЕННЯЎ** - *местное внесение удобрений* - адзін са спосабаў размяшчэння ўгнаенняў у глебе, пры якім іх у параўнальна невялікіх дозах уносяць адначасова з высевам насення, пасадкай клубняў, каранёў або расады с.-г. раслін.

**МЯЦЁЛКА** - *метелка* - суквецце, складаная гронка са звіслымі кветаножкамі і дробнымі кветкамі (мужчынскія суквецці кукурузы, мятлюжок).

**НАВАЖКА НАСЕННЯ** - *навеска семян* - частка насення сярэдняга ўзору, вылучаная для вызначэння асобных паказчыкаў іх якасці.

**НАКІПНЫЯ ЛІШАЙНІКІ** - *накипные лишайники* - група лішайнікаў са слаявінай у выглядзе накіпу ці коркі, цесна прырослай да субстрату.

**НАСЕННЕ** - *семя* - орган размнажэння ўсіх насенных раслін; утвараецца з семяпочкі пасля працэсу апладнення.

**НАСЯКОМАЕДНЫЯ РАСЛІНЫ** - *насекомоядные растения* - група шматгадовых травяністых раслін, здольных улаўліваць насякомых (зрэдку іншых дробных жывёл - лічынкі, ракападобныя) і выкарыстоўваць іх як дадатковую крыніцу жыўлення (пераважна азоцістага) (напрыклад расіца, тлушчанка, плывунец).

**НЕКАРАНЁВАЯ ПАДКОРМКА** - *некорневая подкормка* - прыём унясення ўгнаенняў, пры якім расліны атрымліваюць пажыўныя рэчывы праз лісце.

**НЕКТАРНІКІ** - *нектарники* - спецыялізаваныя залозкі, якія выдзяляюць нектар, у яго саставе многа цукрыстых рэчываў (вугляродаў), якія з`яўляюцца прыманкай для насякомых-апыляльнікаў; адносяцца да вонкавых выдзяляльных тканак.

**НЕРВАЦЫЯ** - *нервация* - гл. жылкаванне.

**НІТРАГІН** - *нитрагин* - бактэрыяльнае ўгнаенне для бабовых культур, якое ўтрымлівае спецыфічныя для кожнага віду раслін расы клубеньчыкавых бактэрый.

**НІТРАФІЛЫ** - *нитрофилы* - расліны, якія патрабуюць павышанага ўтрымання нітратаў у глебе (напрыклад бузіна, таполя, маліна, крапіва і інш.).

**НОРМА ВЫСЕВУ НАСЕННЯ** - *норма высева семян* - колькасць высяваемага на 1 га чыстага ўсходжага насення, якое забяспечвае нармальныя па густаце ўсходы і добры паўнавартасны ўраджай.

**НУЦЭЛУС** - *нуцелус* - цэнтральная шматклетачная частка семяпочкі, акружаная адным або двума покрывамі (інтэгументамі); у ім развіваецца зародкавы мяшок.

**ОРГАН** - *орган* - частка арганізма, якая выконвае вызначаныя функцыі і мае ў сувязі з гэтым пэўную будову. Адрозніваюць: аналагічныя, гамалагічныя, вегетатыўныя, генератыўныя (рэпрадуктыўныя), асноўныя.

**ПАВЕТРАНЫ РЭЖЫМ** - *воздушный режим* - рэжым, які забяспечвае расліны кіслародам і вуглекіслатой і стварае неабходныя ўмовы для іх дыхання і жыўлення.

**ПАВОЙНЫЯ РАСЛІНЫ** - *вьющиеся растения* - травяністыя або драўняністыя расліны, сцёблы якіх здольны абвівацца вакол апірышча дзякуючы вярчальнаму руху верхавін растучых парасткаў, абумоўленаму нераўнамернасцю росту ўнутраных і вонкавых бакоў сцябла.

**ПАДЗІМНЯЯ СЯЎБА** - *подзимние посевы* - сяўба, якая праводзіцца позняй восенню, каб насенне не прарасло да наступлення зімы.

**ПАДКОРМКА РАСЛІН** - *подкормка растений* - унясенне ўгнаенняў пад с.-г. культуры ў час іх вегетацыі, агратэхнічны прыём, накіраваны на паляпшэнне жыўлення раслін і павышэнне ўраджаю.

**ПАЗАКАРАНЁВАЯ ПАДКОРМКА** - *внекорневая подкормка* - апырскванне лістоў раслін растворам, які ўтрымлівае пажыўныя рэчывы.

**ПАЗУХА ЛІСТА** - *пазуха листа* - вугал паміж сцяблом і лістом.

**ПАКАЁВАЕ КВЕТКАВОДСТВА** - *комнатное цветоводство* - галіна кветкаводства; вырошчванне кветкава-дэкаратыўных раслін у жылых пакоях, дзіцячых установах, заводскіх цэхах і г. д. з мэтай зялёнага афармлення іх інтэр'ера.

**ПАКАЁВЫЯ РАСЛІНЫ** - *комнатные растения* - расліны, якія вырошчваюць у жылых і грамадскіх памяшканнях для дэкаратыўнага афармлення.

**ПАЛАВОЕ РАЗМНАЖЭННЕ** - *половое размножение* - спосаб размнажэння, пры якім новы арганізм развіваецца з зіготы, якая ўзнікае ў выніку зліцця (апладнення) жаночай і мужчынскай палавых клетак (гамет).



**ПАЛІГАМНЫЯ РАСЛІНЫ** - *полигамные растения* - гл. расліны мнагадомныя.

**ПОЛІКАРПІЧНЫЯ РАСЛІНЫ** - *поликарпические растения* - расліны, якія цвітуць і пладаносяць неаднаразова на працягу свайго жыцця.

**ПАЛІЎНАЯ НОРМА** - *поливная норма* - колькасць вады, якая падаецца на 1 га пасеву арашаемай культуры за адно паліванне.

**ПАЛЯВАЯ ЎСХОДЖАСЦЬ НАСЕННЯ** - *полевая всхожесть семян* -адносіны ліку ўсходаў, якія паявіліся, да ліку высеянага ў полі ўсходжага насення, выражаныя ў працэнтах.

**ПАЛЯРНАСЦЬ** - *полярность* - характэрнае для раслін адрозненне паміж марфалагічна верхняй і ніжняй часткай іх цела, што выяўляецца нават ў невялікіх адрэзках раслін.

**ПАПАР, ПАПАРНЫ ПАЛЕТАК** - *пар, паровое поле* - поле севазвароту, якое на працягу ўсяго або часткі вегетацыйнага перыяду застаецца незасеяным, шматразова апрацоўваецца для знішчэння пустазелля, запасання вільгаці і пажыўных рэчываў у даступнай для с.-г. раслін форме.

**ПАПУЛЯЦЫЯ** - *популяция* - сукупнасць асобін, якая сфарміравалася ў працэсе адбору дадзенага віду, што насяляе вызначанае месцапражыванне і мае падобную спадчыннасць, але з індывідуальнымі яе адрозненнямі ў залежнасці ад умоў мікрасферы.

**ПАРАКАРПНЫ ГІНЕЦЭЙ** - *паракарпный гинецей* - цэнакарпны гінецэй з аднагняздовай завяззю, утворанай некалькімі пладалісцікамі, якія зрасліся свімі краямі па перыферыі завязі.

**ПАРАСОН** - *зонтик* - монападыяльнае суквецце, галоўная вось якога амаль не выяўлена; усе кветаножкі выходзяць з аднаго месца (цыбуля, вішня, прымула).

**ПАРАСТАК** - *побег* - сцябло з размешчанымі на ім пупышкамі і лісцем, якое развіваецца на працягу вегетацыйнага перыяду.

**ПАРАСТКІ** - *поросль* - аднаўленне пашкоджанай, абрэзанай і ссечанай часткі кораня або сцябла за кошт прыдаткавых пупышак.

**ПАРАФІЗЫ** - *парафизы* - бясплодныя шматклетачныя або аднаклетачныя ніці, якія размешчаны сярод палавых або спораўтвараючых органаў, засцерагаючы іх ад механічнага пашкоджання і высыхання (у многіх сумчатых і базідыяльных грыбоў, імхоў).

**ПАРНІКІ** - *парники* - культывацыйныя збудаванні, прызначаныя для вырошчвання расады кветкавых і агародніннных культур для адкрытага грунту.

**ПАРТЫЯ НАСЕННЯ** - *партия семян* - вызначаная колькасць аднароднага насення (адной культуры, аднаго гатунку, адной рэпрадукцыі і катэгорыі гатунковай чысціні, аднаго года ўраджаю і паходжання), занумараваная і засведчаная адпаведнымі дакументамі.

**ПАРТЭНАГЕНЭЗ** - *партеногенез* - развіццё новага арганізма з неаплодненай яйцаклеткі. Назіраецца ў яблыні, грушы, дзьмухаўца, парэчкі. Разнавіднасць апаміксісу.

**ПАРТЭНАКАРПІЯ** - *партенокарпия* - развіццё пладоў без насення (парэчка, вінаград, мандарын).

**ПАРТЭНАСПЕРМІЯ** - *партеноспермия* - развіццё насення без зародка (лістоўніца). Разнавіднасць апаміксісу.

**ПАРТЭР** - *партер* - адкрытая частка саду або парку з газонамі, кветнікамі, вадаёмамі, бардзюрамі з кустоўя.

**ПАРЭНХІМА** - *паренхима* - тканка, якая складаецца з клетак болей або менш аднолькавага памеру па ўсіх напрамках.

**ПАСЕЎ** - *посев* - гл. сяўба.

**ПАСЫНКАВАННЕ** - *пасынкование* - вырыванне бакавых парасткаў (пасынкаў), якія растуць з пазухі лісця і на наземнай частцы галоўнага сцябла.

**ПАСЯЎНАЯ ПРЫГОДНАСЦЬ НАСЕННЯ, ГАСПАДАРЧАЯ ПРЫГОДНАСЦЬ НАСЕННЯ** - *посевная годность семян, хозяйственная годность семян* - працэнт прыгоднага для сяўбы (чыстага і адначасова ўсходжага насення ў даследаваным узоры і ў адпаведнай яму насеннай партыі.

**ПАЎАДРАЎНЕЛЫЯ ЧАРАНКІ** - *полуодревесневшие черенки* - частка сцябла з лісцем і не цалкам выспелай драўнінай, якая мае даўжыню 7-15 см і 2-3 пупышкі.

**ПАЎХМЫЗНЯК(ЧОК)** - *полукустарник(чек)* - расліны з парасткамі, якія ў ніжняй частцы застаюцца шматгадовымі, а ў верхняй - аднагадовымі і зімой адміраюць. Працягласць жыцця сцёблаў - 5-8 гадоў.

**ПАЧАТАК** - *початок* - монападыяльнае суквецце, якое мае тоўстую, мясістую вось і сядзячыя кветкі (жаночае суквецце кукурузы, капытнік).

**ПЕРАВАЛКА ГАРШКОВЫХ РАСЛІН** - *перевалка горшечных растений* - перанос маладых раслін у гаршкі большага дыяметра без парушэння землянога камяка і каранёвай сістэмы.



**ПЕРАГНОЙНАЯ ЗЯМЛЯ** - *перегнойная земля* - парніковая або гнойная зямля, якая ўтвараецца з гною, які перапрэў і які выкарыстоўваецца ў парніках як біяпаліва.

**ПЕРАДПАСЯЎНОЕ АБАГАЧЭННЕ НАСЕННЯ** - *предпосевное обогащение семян* - апрацоўка насення розных культур перад сяўбой мікраэлементамі і іншымі пажыўнымі рэчывамі з мэтай паляпшэння жыўлення праросткаў.

**ПЕРАДПАСЯЎНОЕ ПАЛІВАННЕ** - *предпосевной полив* - паліванне перад сяўбой для ўвільгатнення верхняга слоя глебы з мэтай своечасовага атрымання ўсходаў і лепшага развіцця раслін у першы перыяд вегетацыі.

**ПЕРАДПАСЯЎНАЯ АПРАЦОЎКА НАСЕННЯ** - *предпосевная обработка семян* - прыёмы апрацоўкі насення розных с.-г. культур перад сяўбой, накіраваныя на паляпшэнне іх пасяўных якасцей.

**ПЕРАСАДКА ГАРШКОВЫХ РАСЛІН** - *пересадка горшечных растений* - перанос раслін у гаршкі большага або аднолькавага дыяметра з частковай або поўнай заменай зямельнай сумесі.

**ПЕРЫБЛЕМА** - *периблема* - утваральная тканка, якая размешчана ў конусе нарастання кораня паміж дэрматагенам і плерамай; утварае першасную кару.

**ПЕРЫДЭРМА** - *перидерма* - другасная комплексная покрыўная тканка. Яна складаецца з корка, коркавага камбію і феладэрмы. Характэрна для шматгадовых органаў раслін.

**ПЕРЫСПЕРМ** - *перисперм* - тканка, багатая пажыўнымі рэчывамі, развіваецца з нуцэлуса семяпочкі; характэрна для насення.

**ПЕРЫТЭЦЫЙ** - *перитеций* - напаўзамкнутае гарлачыкападобнае пладовае цела, якое ўтвараецца ў сумчатых грыбоў.

**ПЕРЫХЕЦЫЙ** - *перихеций* - асаблівае покрыва, якое акружае групы архегоніяў у многіх мохападобных.

**ПЕРЫЦЫКЛ** - *перицикл* - утваральная тканка; складаецца з аднаго слоя клетак і размешчана адным колам пад эндадэрмай; вонкавая частка цэнтральнага цыліндра ў маладых каранях, сцёблах, лісцях; фарміруе бакавыя і прыдатковыя карані, млечнікі і іншыя структуры.

**ПЕРФАРАЦЫЯ** - *перфорация* - разбурэнне клетачных абалонак і ўтварэнне ў іх адтулін; характэрна для сасудаў і сітападобных трубак.

**ПЕСЦІК** - *пестик* - жаночая частка кветкі, якая ўтрымлівае семяпочкі, з якіх развіваецца насенне. Утвараецца пладалісцікамі, якія зрасліся.

**ПІГМЕНТЫ** - *пигменты* - фарбавальныя рэчывы, якія знаходзяцца ў пластыдах або ў клетачным соку.

